ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

19 лістапада 2004 г. № 46/4282

## АНОНС!




"Такое жыццё", — часта гаворым мы, паўтараючы вядомае французскае выслоўе. "Што ёсць наша жыццё?" — іншым разам задаём сабе пытанне, аднак памятаем: жыццё — тэатр... Падобныя думкі наведвалі і мяне ў час чытання часопісаў "Маладосць", "Полымя", "Нёман", якія выйшлі ў лістападзе.

СТАР. 6

Яго называюць эпатажным, чалавекам, які наўмысна выклікае да сябе інтарэс праз сваркі. А яшчэ — чалавекам, які не мяняе сваіх думак. І таму можна смела лічыць, што ягоныя выказванні маюць адценне калі не вечнасці, дык працягласці ў часе... Зрэшты, думкі, выказаныя ім пару-тройку год таму такія ж свежыя, нібыта прамоўлены толькі ўчора. Гэта сведчанне не абмежаванасці, а толькі разважлівых высноў, настоеных на... з'едлівасці. Ну такі ён ад прыроды. А мо такі ад... прафесіі? Знаёмлю: кампазітар Эдуард ХАНОК.



СТАР. 14

# Пойдзем у кіно?

Заўтра пачынаецца XI Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад", а яго малодшы родзіч, свята фільмаў для дзяцей "Лістападзік-2004", вітае сваю публіку ўжо сёння.

Лепшыя мастацкія фільмы з больш як 20 краін, ад Японіі да ЗША, ад Аўстраліі да балтыйскіх дзяржаў, сузор'е майстроў экрана, папулярных акцёраў — у Мінску! Конкурсную праграму, адначасова з гледачамі, будзе ацэньваць прафесійнае міжнароднае журы на чале з В.Абдрашытавым (Расія). На час фестывалю, з 20 па 26 лістапада, здаецца, ніводны сталічны кінатэатр не застанецца без імпрэзы: столькі плануецца творчых сустрэч, вернісажаў, прэзентацый, рэтраспектыў і прэм'ер...

Сёлета свята дзесятай музы ладкуецца пад знакам юбілею Вялікай Перамогі і 80-годдзя беларускага кіно, у якога, вядома ж, ёсць не толькі мінулае. Днямі, апроч работ айчынных аніматараў, будуць паказаны дзве новыя ігравыя стужкі "Беларусьфільма". Гэта ўжо вядомая "Дунечка" рэжысёра А. Яфрэмава і толькі-толькі завершаная работа Ю.Бяржыцкага паводле сцэнарыя М.Чаргінца ды А.Калюновай "Вам — заданне". Абодва фільмы, кадры з якіх прадстаўлены ўвазе нашых чытачоў, удзельнічаюць у конкурснай праграме.

*Фота А.ДЗМІТРЫЕВА*

# Праз 90 гадоў

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў рамках фотапраекта "Сутокі" адбылася выстаўка "Праз 90 гадоў і лінію фронту. Першая сусветная вайна на Беларусі".

На выстаўцы прадстаўлены сучасныя фатаграфіі, а таксама фотаздымкі рускіх і нямецкіх франтавікоў з калекцыі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

Першая сусветная вайна — глабальная катастрофа XX стагоддзя, у якую былі ўцягнуты больш за 30 краін Еўропы, Азіі і Амерыкі. Наступствы яе адчуваюцца і сёння, праз 90 гадоў пасля тых падзей. Гэтая вайна не скончылася чарговым падзелам тэрыторый і мільёнамі ахвяр, яна абумовіла хвалю рэвалюцый, грамадзянскіх войнаў, перамогу савецкай улады ў Расіі, узнікненне фашысцкага рэжыму ў Германіі і г.д. Яе следствам праз чвэрць стагоддзя стала і Другая сусветная вайна.

90 гадоў таму Беларусь, якая не была тады самастойнай краінай, прыняла ў Першай сусветнай вайне самы непасрэдны ўдзел (тэрытарыяльна і статыстыкай страт). Але, на жаль, наша грамадства сёння ведае вельмі мала пра тыя падзеі, што адбываліся на беларускай зямлі. Між тым лінія фронту працягнулася з поўначы на поўдзень Беларусі праз Віцебскую, Гродзенскую, Мінскую і Брэсцкую вобласці. Амаль чвэрць тэрыторыі нашай краіны знаходзілася пад нямецкай акупацыяй. Астатняя была прыфрантавой зонай. Частка баявых умацаванняў, якія працягнуліся на сотні кіламетраў, захавалася да нашых дзён.

Атмасферу тых часоў дапамагаюць адчуць на выстаўцы фотаздымкі, зробленыя 90 гадоў таму назад самімі ўдзельнікамі тых падзей. Загадчыца аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Надзея Саўчанка адзначае: "Прадстаўленыя на выстаўцы здымкі ўзяты з франтавых альбомаў, што захаваліся ў фондах музея. Яны адлюстроўваюць падзеі з супрацьлеглых бакоў, таму што зроблены не толькі рускімі, але і нямецкімі фатографамі".

На жаль, не атрымалася ўстанавіць імёны ўсіх аўтараў фотаздымкаў. Але сааўтарамі Уладзіміра Багданава на гэтай выстаўцы можна лічыць штабс-капітана Мікалая Гагена ды сувязіста германскай артылерыі Людвіга Маркса.

У экспазіцыі больш за 100 фотаздымкаў — сумны і горкі напамін, яшчэ адно папярэджанне ўсім нам.

**В.К.**

*12 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі РБ адбылася прэзентацыя высокамастацкага прадстаўнічага фотаальбома Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча "Спадчына Беларусі", выдадзенага Мінскай фабрыкай каляровага друку па замове і стопрацэнтнай фундацыі Міністэрства інфармацыі РБ.*



# У спадчыну сабе і свету



Гэтае адмысловае, буйнафарматнае і маляўнічае выданне прадстаўнічага кшталту — першы ў краіне фотаальбом, які змяшчае на 320 старонках 500 каляровых фотаздымкаў. Яны раскрываюць багатае гістарычнае аблічча нашай Бацькаўшчыны, даюць магчымасць чытачу, асабліва замежнаму, пазнаёміцца з нацыянальным багаццем Беларусі: храмамі, палацамі, замкамі, сядзібамі і краявідамі, а таксама творамі нашага старажытнага жывапісу, графікі і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

Як зазначыў, распачынаючы прэзентацыю альбома, міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч, гэтае выданне адкрые старонкі нашай гістарычнай спадчыны не толькі для беларусаў, але і для ўсёй сусветнай культурнай супольнасці. Адмысловасць выдання ў тым, — сказаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі РБ Уладзімір Мацвяйчук, што шмат якія помнікі прадстаўлены ўпершыню: каталіцкі храм у Суботніках, фрэскі Свята-Нікольскага манастыра, дубовы іканастас Камянецкай царквы, шыкоўныя вітражы ў шэметаўскім касцёле.

Ва ўступным слове да выдання Генеральны дырэктар ЮНЕСКА сп-р Каіціра Мацууры напісаў: "Упэўнены, што фотапраект "Спадчына Беларусі" будзе спрыяць новаму культурнаму дыялогу і адкрые старонкі беларускай старажытнасці для ўсяго свету".

Фотаздымкі, што ўвайшлі ў альбом "Спадчына Беларусі", зроблены Алегам Лукашэвічам і Аляксандрам Аляксеевым на працягу трох апошніх год. Першага з іх мы добра ведаем, як аўтара і вядучага "Новай калекцыі" на першым нацыянальным канале тэлебачання, другі — па адукацыі эканаміст. Прафесійна займацца фатаграфіяй пачалі у 2001 годзе. Аўтараў праекта "Спадчыны Беларусі" грунтоўна падтрымалі ў Міністэрстве інфармацыі РБ, але, што галоўнае, не толькі словамі, але шчодрым фінансаваннем.

Фотаальбом не толькі знаёміць з нацыянальнымі багаццямі Беларусі, але і сведчыць пра ўзровень паліграфічных магчымасцей у дзяржаве, — сказаў на прэзентацыі дырэктар ВРУП "Мінская фабрыка каляровага друку" Аляксандр Аксёненка. Сапраўды, новае выданне — высокага паліграфічнага гарту. Адмысловая папера, шматколерны друк, выштукаваная вокладка і шыты пераплёт адпавядаюць апошняму слову паліграфічных дасягненняў. Таму альбом атрымаўся нятанным і ўжо на прэзентацыі прадаваўся па 47 т. рублёў за асобнік. Але, як пажартаваў міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч, выдаўцоў гэта не бянтэжыць — ужо сёння колькасць заявак на набыццё "Спадчыны Беларусі" значна перавышае першапачатковы наклад выдання.

**АГА**

***НА ЗДЫМКАХ: адкрыў прэзентацыю міністр інфармацыі Уладзімір РУСАКЕВІЧ; першыя пакупнікі.***

***ФОТА К. ДРОБАВА***

# Мінск і мінчане

У лістападзе Польскі інстытут у Мінску, Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка, Вроцлаўскі універсітэт і Таварыства "Wspolnota Polska" (Вроцлаў) праводзілі навукова-тэарэтычную канферэнцыю "Знакамітыя мінчане XIX – XX ст.ст."

Як падкрэсліў дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Цэзары Карпіньскі, "Горад Мінск адпавядае еўрапейскім культурным традыцыям, але мала прадстаўлены ў даследаваннях польскіх навукоўцаў, тады як культурныя кантакты беларусаў і палякаў існавалі ва ўсе часы".

Дарэчы будзе прыгадаць, што першы артыкул пра Мінск напісаў У.Сыракомля ("Мінскія могілкі Кальварыі"), пасля С.Кавалеўская выдала кніжку "Карцінкі з Мінска", а гісторыя Мінскай гімназіі, якую на канферэнцыі назвалі "кузняй польскіх талентаў", звязана з такімі знакамітымі асобамі, як С.Манюшка, Т.Зан, Я.Лучына.

Гораду і людзям, што яго ўславілі, былі прысвечаны выступленні прафесара Адама Мальдзіса, які ўзначальвае Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, прафесара Вроцлаўскага універсітэта Здзіслава Вінніцкага і магістра гэтага ж універсітэта Паўла Маслоўскага, супрацоўніка Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Надзеі Саўчанкі, кандыдата гістарычных навук, супрацоўніка Нацыянальнага архіва Беларусі Віталя Скалабана і інш.

**Н.Д.**

***Напрыканцы мінулага тыдня ў Цэнтральным доме афіцэраў адбылася сустрэча галоўных рэдактараў, супрацоўнікаў выданняў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" з бібліятэчнымі работнікамі злучэнняў, вайсковых часцей і Дамоў афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.***

Гаворка вялася пра ролю літаратуры ў духоўным развіцці і фарміраванні цэласнасці асобы ваеннаслужачых. Наша літаратура, як вядома, у сваёй большасці пазбегла дэструктыўных уплываў, характэрных для многіх літаратур замежжа, дзе асноўную ролю дыктуе так званы рынак "прыніжаных людскіх пачуццяў". А гэта значыць, што захаваўшы маральнасць і этычнасць у сваіх паэтычных і празаічных творах, беларускія пісьменнікі нясуць у асяродак чытачоў, у тым ліку і вайскоўцаў — дабрыню, спагаду і чалавечнасць.

Пра гэта ў сваіх выступленнях гаварылі галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Ніна Чайка, галоўны рэдактар тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Анатоль Казлоў, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Міхась Пазнякоў, а таксама паэты Яўген Каршукоў і Алесь Бадак.




Ва ўзаемазацікаўленай размове, якая адбывалася паміж пісьменнікамі і бібліятэкарамі неаднаразова адзначалася, што кожная пагранічная застава, вайсковая часць любых радоў войск, няважна — знаходзяцца яны ў вялікіх гарадах ці маленькіх мястэчках — павінны мець высокамастацкія творы нашых пісьменнікаў, выданні РВУ, якія прасякнуты гуманізмам і патрыятызмам.

На сустрэчы была дасягнута дамоўленасць аб рэгулярным наведванні творцамі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" ваенных бібліятэк і служачых Узброеных Сіл РБ.

**АС.**

***Фота К. ДРОБАВА***



# Географы святкуюць

**Геаграфічнае пазнанне — гэта частка нашай культуры. Вобраз вучоных, педагагічных і практычных работнікаў у галіне геаграфічных навук, як правіла, узнёслы і светлы.**




Такое ўяўленне пра гэту частку нашай інтэлігенцыі асабліва праявілася ў час работы Беларускага кангрэса географаў, прысвечанага 70-годдзю геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта і скліканага пад яго эгідай у Мінску чарговага з'езда Беларускага Геаграфічнага таварыства, у якога таксама юбілей — 50 год з дня стварэння. Месца правядзення з'езда і кангрэса — у адрэстаўраваным цудоўным архітэктурным шэдэўры, будынку геафака Белдзяржуніверсітэта — спрыяла настрою святочнасці.

VII з'езд Беларускага Геаграфічнага таварыства адкрыла старэйшая супрацоўніца геаграфічнага факультэта, ганаровы член таварыства прафесар В. Якушка. Пасля ўступнага слова дэкана геаграфічнага факультэта БДУ І. Піроўніка да дэлегатаў і гасцей з'езда звярнуўся адзін з арганізатараў Геаграфічнага таварыства ў рэспубліцы Беларусь дацэнт Ф. Фешчанка.

Справаздачны даклад аб дзейнасці грамадскага аб'яднання Беларускае Геаграфічнае таварыства зрабіў яго старшыня ў 2000—2004 гадах прафесар В. Аношка. Сёння таварыства мае аддзяленні амаль ва ўсіх абласных цэнтрах і яшчэ ў Оршы і Пінску. Узрослая актыўнасць структур на ўсіх узроўнях тлумачыцца тым, што яно перайшло ад прынцыпу планавай зацэнтралізаванай да ініцыятыўнай дзейнасці на месцах. Таварыствам шырока адзначаны юбілейныя даты вядомых беларускіх географаў і падарожнікаў І. Дамейкі, І. Чэрскага і інш.

У выступленнях падкрэслівалася, што вывучэнне айчыннай геаграфіі прыцягальная і павучальная справа. Дзейнасць географаў па ўсталяванні раўнавагі прыродных працэсаў з вынікамі агульначалавечых пераўтварэнняў прызнаецца найвышэйшай.

Работа таварыства і яго Вучонага савета ў справаздачным перыядзе ацэнена станоўча. Па выніках закрытага галасавання новым старшынёй Беларускага Геаграфічнага таварыства абраны дацэнт БДУ, доктар геаграфічных навук П. Лопух.

На наступны дзень праходзіла навуковая канферэнцыя з нагоды 70-годдзя геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Яе ўдзельнікам была прапанавана шырокая культурная праграма. Прайшлі дні святкавання юбілею геафака з урачыстай сустрэчай выпускнікоў факультэта.

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ,**
**член Геаграфічнага таварыства пры АН СССР,**
**член Беларускага Геаграфічнага таварыства**

<u>Рэха публікацыі</u>

# “Старыя — новыя” крыўды

Можна было б пакінуць па-за ўвагай артыкул В.Ткачова “Надвор'е ў доме, альбо Што скажуць людзі?”, надрукаваны ў “ЛіМе”,ад 8 кастрычніка, які нагадвае сплаў гадавых справаздач сакратароў абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў і плачу пакрыўджанага няўважлівасцю атачэння самога сакратара. Можна было б дараваць аўтару яўнае самалюбаванне і самаўхваленне, калі б не адно “але”: на заканчэнне справаздачы-скаргі на падкопы ворагаў і графаманаў прачытаў суцэльную, на маю думку, хлусню і падбухторванне да запознанай помсты ўсіх маёю асобаю пакрыўджаных ў тыя часы, калі давялося быць дырэктарам “Мастацкай літаратуры”.

Падумалася: пры чым тут мая асоба да гадавой справаздачы аб дзейнасці таварыша Ткачова гомельскай пісьменніцкай арганізацыі? Размахваючы папяроваю шабляй, нікога з пісьменнікаў канкрэтна не называючы, аўтар апеліруе ў аноннсе да пакрыўджаных. Ён злуецца, што вакол яго безліч графаманаў. Яны выдаюць за свой кошт кнігі, якія аўтар артыкула забараняе чытаць: “Лепш будзе, калі яны (чытачы — **Г.М.**) нічога не прачытаюць”. Падумалася, як небараку Ткачову цяжка ісці да рэспубліканскай славы, калі ўсе вакол графаманы і ворагі, а самы злы і помслівы — Г.Марчук.

Звернемся аднак жа да тэксту сп. Ткачова. Гаворка пра выданне кнігі літаратуразнаўцы П.Васючэнкі “Сучасная беларуская драматургія”, у якой не згадваюць імя драматурга В.Ткачова. Вось яскравая цытата: “А сакрэт просты. П.Васючэнка пра мяне не забыўся. *“Пісаў я пра вас, вы былі ў маім камп'ютэры...”, але ж якраз з'явіўся ў газеце “Звязда” артыкул “Наводшыбе” і за маім подпісам таксама, дзе дасталося крытыцы і ў адрас тагачаснага кіраўніка выдавецтва “Мастацкая літаратура” Г.Марчуку. Каб ён, ды даравау! Як прызнаўся сам П.Васючэнка, з гэтай кнігай увогуле затрымка атрымалася, бо пра самога дырэктара выдавецтва было малавата напісана... давялося падліць вадзічкі”*.Тут хітра перамяшаны тэкст нібыта П.Васючэнкі і самога аўтара. Так з дапамогай фальсіфікацыі В.Ткачоў выставіў мяне перад усім народам як шантажыста і чалавека, што, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, не пускаў у свет кнігі, у якіх не было пахвалы самому дырэктару. Гэта сцвярджэнне тычыцца ўжо не этыкі, а судовай справы.

Так, выдавецтва “Мастацкая літаратура” не выдала кнігу В.Ткачова, на якую не змагло сабраць неабходнай колькасці заказаў. Ці ж аднаго Ткачова ў тыя цяжкія гады з-за недастатковага фінансавання выдавецкай сістэмы мы не выдалі? Назбіраецца паўсотні пісьменнікаў, чые кнігі былі адкладзены на наступныя гады. Датацыі на выданне з кожным годам змяншаліся: з 80 працэнтаў да 40—30 працэнтаў. Жорсткая інструкцыя “издание книги должно быть экономически обосновано” прымушала пераносіць назвы з году ў год і колькасць назваў няўхільна змяншалася. Выдавалі 60 назваў, а перад аб'яднаннем выдавецтваў — 28 назваў. Цяжкае матэрыяльнае становішча прымусіла выдавецтва скарацієь штаты: было 62 супрацоўнікі — засталося 45. Мы працавалі і тады, калі нават у “ЛіМе” адзін з кіраўнікоў Дзяржкамдруку выступіў з артыкулам пад назваю “Выданне беларускай кнігі не абавязак, а дабрачыннасць дзяржавы”. Мы даводзім, што менавіта абавязак, таму і надараліся канфлікты.

В. Ткачоў пакрыўдзіўся. Ушчыкнуў у “Звяздзе” і як бачым, не супакоіўся: гэта ж уяўляеце — восем гадоў насіць за пазухаю камень, каб зноў жа знайсці момант і зняважыць мой гонар і годнасць. Хоць бы ўважліва прачытаў тытул: кніга П. Васючэнкі выходзіла пад грыфам “Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр Міністэрства адукацыі РБ”. Такім чынам, выдавецтва да яе аўтара, выдання і зместу не мела адносін, яно выконвала заказ. Больш таго, прынцыповы і “сярдзіты” рэдактар кнігі З.Пазняк, якую нават супрацоўнікі выдавецтва “пабойваліся”, пытала ў П.Васючэнкі, чаму не ўсе драматургі ахоплены (можа, яна мела на ўвазе Кучара, Манохіна, Ждана ды іншых). Рэцэнзаваў кнігу доктар філалагічных навук прафесар А.Бельскі. Рэцэнзія захоўваецца ў выдавецтве і дагэтуль. Пры чым тут дырэктар выдавецтва Г.Марчук, які да рукапісу не меў дачынення, не бачыў яго на вочы?

Далей В.Ткачоў з амбіцыяй местачковага пана піша: “Вось і трапіла кніга “Сучасная беларуская драматургія” з тракам у школы”. Божа, жахнуўся я. У якім часе мы жывём, а ці не ў 37 годзе? Калі няма ягонага прозвішча ў кнізе, дык, аказваецца, кніга — брак?!

Каб не выдаваць сябе за адзінокага барацьбіта за “справядлівасць”, Ткачоў прыплятае прозвішча Міколы Захаранкі. Мауляў, Марчук вінаваты, што ў цябе, як драматурга, не згадаў Васючэнка. У Захаранкі на час выдання кнігі Васючэнкі была а ці не адна аднаактоўка, хоць мы на секцыі драматургіі аднагалосна (у тым ліку і я) рэкамендавалі прыняць Захаранку ў СБП.

**Г. МАРЧУК**

## Абсягі

<u>ВІЦЕБШЧЫНА</u>

### Прэзентацыя партызанскай кнігі

Жыхар горада Ягор'еўска Маскоўскай вобласці, былы баец партызанскай брыгады М.Гудкова Уладзімір Ільін напісаў змястоўную кнігу ўспамінаў “Партызаны Бука”. Кніга выйшла ў свет у маскоўскім выдавецтве “Вымпел”. У ёй расказваецца пра баявыя дзеянні народных мсціўцаў на тэрыторыі Талачынскага і суседніх раёнаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Што датычыцца назвы выдання, то варта заўважыць, што яна звязана з талачынскай вёскай Бук і яе навакольнымі лясамі, дзе ў суровыя дні ліхалецця базіраваліся партызаны названай вышэй брыгады.

Нядаўна ў Талачыне адбылася прэзентацыя кнігі Уладзіміра Ільіна. На яе сабраліся ветэраны вайны і працы, работнікі культуры, моладзь. Сам аўтар з прычыны хваробы прыехаць сюды не змог.

На прэзентацыі выступілі дырэктар раённага гісторыка-краязнаўчага музея Ірына Пікулік, рэдактар раённай газеты Віктар Бірукоў, удзельнікі вайны. Яны гаварылі пра важнасць кнігі, як сведкі тых суровых дзён, пра даніну памяці слаўным абаронцам Айчыны, а таксама пра вялікае значэнне ўспамінаў у ваенна-патрыятычным выхаванні моладзі.

### Самы сучасны і прывабны

На фасадзе Талачынскага раённага вузла электрасувязі з'явіліся прыцягальныя шыльды “Белтэлекам”, “Мабільныя тэлесістэмы”, а таксама вялікі электронны гадзіннік. Тут пасля рэканструкцыі часткі памяшканняў да ўрачыстай абстаноўцы адкрыўся прасторны і светлы, з сучасным дызайнам, салон калектыўнага карыстання. Як адзначыў начальнік РВЭС Аляксандр Акаловіч, цяпер работнікі сувязі маюць магчымасць аказваць наведвальнікам 24 віды паслуг. Усе працэсы работы камп'ютэрызаваны.

Ёсць і прыемная навінка: устаноўлены чатыры індывідуальныя камп'ютэры з выхадам у Інтэрнет.

Па інфармацыі “Белтэлекама”, новы пункт-салон у Талачыне з'яўляецца адным з лепшых, самым сучасным і прывабным у рэспубліцы.

**Алесь МАЗУР**

<u>МАГІЛЁЎШЧЫНА</u>

### Новае аблічча паэта

Пяру таленавітага магілёўскага паэта Івана Пехцерава належаць некалькі зборнікаў вершаў. А цяпер шматлікія прыхільнікі яго творчасці ведаюць гэтага аўтара яшчэ і як здатнага празаіка. У магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля сёлета пабачыла свет мастацка-дакументальная аповесць І. Пехцерава “ Мёртвые сраму не имут”.

Выдадзена кніжка на сродкі Клімавіцкага райвыканкама.

Працуючы журналістам, ён карпатліва збіраў звесткі пра грозныя падзеі пачатку Вялікай Айчыннай вайны на ўсходзе роднай Магілёўшчыны. І вось у сталым узросце І. Пехцераў стварыў мастацка-дакументальную рэч як даніну ўдзячнага пакалення, якое абавязана мужным змагарам уласным жыццём.

Значная частка тыражу, які складае адну тысячу экземпляраў, паступіць у бібліятэкі Клімавіцкага раёна.

**Уладзімір ДУКТАЎ**

# “Натхненне” прымала гасцей

**На днях у Мінскім інстытуце кіравання прайшла творчая сустрэча. Па запрашэнні студэнтаў і выкладчыкаў гэтай навучальнай установы да іх завіталі дырэктар Рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і Мастацтва”, пісьменніца Таіса Бондар і дачка Героя Савецкага Саюза, камандзіра беларускага партызанскага злучэння Васіля Казлова, дацэнт БДУ Вольга Казлова.**



## Першае знаёмства

Мінскі інстытут кіравання (МІК) — адна з першых прыватных ВНУ краіны — быў адкрыты ў 1991 годзе. Яго стварэнне прыпала на час вялікіх змен у нашым грамадстве, калі відавочным стаў недахоп “рыначных” спецыялістаў.

Рэктар інстытута Мікалай Суша, на жаль, адсутнічаў — вымагалі тэрміновыя справы. Але гасцей ветліва, добразычліва сустрэлі прарэктар па навуковай рабоце, доктар эканамічных навук, прафесар Генадзь Хацкевіч і першы прарэктар па вучэбнай рабоце, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт Вячаслаў Табаравец. Яны расказалі пра МІК, гісторыю яго стварэння, сённяшняе жыццё і планы на будучыню.

Адметна, што першы выпуск установы ў 1995 годзе складаў усяго 21 чалавек, а зараз тут атрымлівае адукацыю каля 11 тысяч студэнтаў, як з усіх куткоў нашай Беларусі, так і з Расіі, Украіны, Малдовы і далёкага замежжа. Сярод супрацоўнікаў — 42 прафесары і 115 кандыдатаў навук. Вучэбны працэс удасканальваецца, дзякуючы кантактам з навучальнымі ўстановамі ЗША, Англіі, Кітая, Кіпра, Аўстрыі, Польшчы, Японіі і інш. Там праходзяць стажыроўкі выкладчыкі, адбываецца абмен студэнтамі і аспірантамі. Да таго ж МІК уваходзіць у Асацыяцыю азіяцкіх універсітэтаў.

Для студэнта не апошнюю ролю іграе і тое, як абсталявана яго alma mater. Навучэнцы займаюцца ў шасці карпусах. Тут маецца 14 камп’ютэрных класаў з тэхнікай апошняга пакалення, лінгафонныя кабінеты, выдатная бібліятэка, уласнае выдавецтва і друкарня ды яшчэ шмат чаго іншага.

## Электронны сюрпрыз

У рэктарат зайшла адна з арганізатараў сустрэчы, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, дацэнт Зінаіда Варановіч, паведаміла, што ўсё падрыхтавана і можна заходзіць у залу.

Усе прысутныя — студэнты і выкладчыкі — сустрэлі запрошаных апладысментамі. Таксама гучалі прывітальныя апладысменты, калі ім прадстаўлялі Таісу Мікалаеўну і Вольгу Васільеўну.

На пачатку мерапрыемства для гасцей быў падрыхтаваны прыемны сюрпрыз — электронная газета. Яна паказвалася па тэлевізарах і адначасова праецыравалася на насценны экран, як у кіназале. Падрыхтавалі газету студэнты. Падчас дэманстрацыі гучала ціхая прыемная музыка, а на экране з дапамогай ілюстрацый і фотаздымкаў расказвалася пра асноўныя вехі жыцця, творчасць і дасягненні Таісы Бондар і Вольгі Казловай. Госці былі прыемна ўражаны і разам з прысутнымі з цікавасцю глядзелі гэту міністужку.

## Ліст Сталіну

Пасля заканчэння дэманстрацыі электроннай газеты вядучыя сустрэчы пацікавіліся, якія ўспаміны нахлынулі на гасцей, калі тыя ўбачылі свае фотаздымкі, а таксама дарагіх і блізкіх свайму сэрцу людзей. “Гледзячы на здымкі, а больш на вас, — сказала Вольга Васільеўна, — я апынулася ў сваёй маладосці, у самым пачатку вайны. Мяне тут у Мінску застала вайна. А вось на гэтым месцы, дзе знаходзяцца вашы прыгожыя вучэбныя карпусы, на той час нічога не было — раслі вялікія сосны. Вось гэта на мяне нахлынула, і дзякуй вам вялікі, што паставілі мяне ў такі стан: я быццам бы зноў вярнулася ў сваю маладосць”.

“Гледзячы на тагачасныя здымкі, — працягвала далей Таіса Мікалаеўна, — узгадваеш мінулае. Я — равесніца перамогі, бо нарадзілася ў 45-м. І, можа, пагэтаму мела права напісаць прадмову вось да гэтай кнігі “Наша Перамога”, якую выдала наша Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Я лічу гэта за вялікі гонар.

Вельмі добра апынуцца сярод людзей, якіх ты, па сутнасці, не ведаеш, але з’яўляецца адчуванне, што яны дарагія і блізкія. Тут



гучыць роднае беларускае слова, узгадваюцца тыя далёкія падзеі. Мы ўсе разам адраджаем нашу краіну; хоць вы толькі пачынаеце гэта рабіць, але менавіта вам належыць будучыня Беларусі — яна павінна стаць самай прыгожай, таму што з’яўляецца любімай”.

Наступнае пытанне было адрасавана Вользе Казловай з нагоды нядаўняга выступлення па радыё, у якім яна прыявяла шмат новых фактаў са свайго жыцця. Студэнтаў асабліва ўразіла тое, што Вольга Васільеўна ахвяравала ўласныя грошы са сваёй стыпендыі ў фонд падтрымкі савецкай арміі. Прысутныя захацелі пачуць пра гэта падрабязней. “Ведаеце, — распачала Вольга Васільеўна,— у вайну нашай дзяржаве была патрэбна кожная капейка, любая дапамога. І вось адзін старшыня заможнага калгаса Саратаўскай вобласці ўнёс прапанову аддаць свае зберажэнні на будаўніцтва самалётаў і танкаў. Пачалася вялікая кампанія. За ўвесь свой навучальны год я сабрала тысячу рублёў, аддала гэтыя грошыкі ў зберкасу і вырашыла напісаць пісьмо Сталіну. Маўляў, прашу вас ад імя студэнтаў арганізаваць якую-небудзь студэнцкую калону ў дапамогу нашым салдатам. А якія былі тады ў нас самыя завідныя жаніхі? — усміхаецца Вольга Васільеўна, — вядома ж, лётчыкі. Дык я прапаную арганізаваць калону лётчыкаў . Адправіла ліст, бо тады была маладая, смелая; зараз бы на такое не рашылася. Праз пэўны час мяне шукаюць па ўсім універсітэце, каб зайшла да рэктара. Думаю, чым я правінілася, быццам і залікі ўсе здала. Прыйшла да рэктара, а ён мне дае велізарнае пісьмо, на якім напісана “ЦК КПСС. Казловай”. Сам рэктар разгубіўся: што гэта такое Казловай прыслалі, куды яе забяруць, якая машына па яе прыедзе? Адкрываем мы разам з ім пісьмо, а там — невялічкая ўдзячнасць ад Сталіна за яго подпісам. Маўляў, дзякую вам, Вольга Васільеўна, за ваш патрыятычны подзвіг. І ўсё. Вось такая гісторыя майго пісьма. Прызнаюся, я доўга захоўвала яго (і па сёння яно ў мяне ляжыць) і не асмельвалася дзе-небудзь заікнуцца, што ёсць у мяне, як кажуць, такая рэліквія. Можа, для вас сёння не так значна, але ў тую пару атрымаць пісьмо ад галоўнакамандуючага было вялікім гонарам (а тым больш яшчэ асмеліцца паслаць яму ліст)”.

## Не важна, якое імя...

Студэнтаў і выкладчыкаў вельмі цікавіла творчасць Таісы Бондар, над чым пісьменніца зараз працуе, якія творчыя планы на бліжэйшы час. У прыватнасці адзначалася, што Таіса Мікалаеўна ў аповесцях і раманах выкарыстоўвае шмат імёнаў. А ці стаяць за імі канкрэтныя людзі? На гэта Таіса Бондар адказала, што за творамі пісьменніка, пра каго б ён ні пісаў, якія б імёны ні выкарыстоўваў, часта стаяць пэўныя людзі, з якімі аўтар сутыкаўся па жыцці. “Я чула, што ў вас шмат таленавітай моладзі, — працягвала пісьменніца, — многія пішуць вершы. Нават выдаеце свой альманах. Я таксама пачынала з вершаў. У іх выказваеш сваё ўласнае захапленне жыццём, свае пачуцці... Жыццё ідзе сваім шляхам: ты вучышся, працуеш, сустракаешся з вельмі многімі людзьмі. І, па сутнасці, што ні чалавек, то непаўторны лёс, а значыць, і асобная кніга. Пра кожнага, без перабольшвання, можна напісаць твор. Калі мне стала цесна ў межах верша, перайшла да прозы.

Дарэчы, быў адзін выпадак. У маёй аповесці “Жывыя жывуць” я пісала пра пакаленне сваіх бацькоў і была страшэнна здзіўлена, калі мая цётка сказала: “Паслухай, ты напісала пра сваю маці”. А я нічога не ведала пра яе жыццё, не паспела пра ўсё гэта распытаць, пра яе асабісты лёс падчас вайны. Таму, гаворачы пра абсалютна прыдуманага героя, часам атрымліваецца, што нейчы лёс стаіць за гэтым чалавекам, і не важна, якое імя ты яму даеш.

Мой самы вялікі гонар у жыцці — не столькі напісаныя мною кнігі, а тое, што я — беларуска, што нарадзілася на гэтай зямлі. Так было наканавана лёсам, бо мы не выбіраем, дзе нарадзіцца. Пражыўшы шмат гадоў на беларускай зямлі, сярод нашых людзей, і паездзіўшы па свеце, я зразумела, што лепшай краіны, чым наша Беларусь, проста няма. Адзінае, чаго не стае ў нашых характарах — мы не ўмеем сабой ганарыцца: сваімі набыткамі і зробленым. З гэтай нагоды і ўзнікла ў мяне задума напісання вось гэтай кнігі “Мы — беларусы”. У ёй — канкрэтныя людзі, пра якіх хацелася расказаць літаратурным словам: і вучоныя, і салдаты Вялікай Айчыннай вайны, дзеячы культуры, рабочыя і вяскоўцы. Канечне, пра ўсіх расказаць немагчыма. Па сутнасці, мы пачалі гэтую справу, і, можа, хтосьці з вас яе працягне, зробіць свой унёсак, напіша пра каго-небудзь з беларусаў. І не важна, якое будзе яго імя. Галоўнае, каб гэта быў чалавек, пра якога варта расказаць.

Калі дасягаеш пэўнага ўзросту, то прыходзіш да думкі, што галоўнае ў жыцці — творчасць. І не так важна, чым ты займаешся: пішаш вершы ды аповесці, або ствараеш новыя камп’ютэрныя праграмы. Галоўнае, каб усё рабілася сумленна і якасна, наколькі дазваляюць талент і магчымасці. Я хачу вам усім пажадаць творчасці, каб кожны з вас, без выключэння, знайшоў сябе ў ёй”.

## “Мы — гонар і скарб Беларусі!”

Далей слова ўзяла кіраўнік літаратурна-творчага аб’яднання “Натхненне” Зінаіда Варановіч. Яна выказала словы падзякі гасцям і прадставіла юнакоў і дзяўчат, намаганнямі якіх усё гэта было падрыхтавана. Напрыканцы сустрэчы студэнты выступілі з невялікім канцэртам: чыталі вершы, спявалі песні.

Як высветлілася, літаратурна-творчае аб’яднанне “Натхненне” было створана чатыры гады таму па ініцыятыве рэктара інстытута Мікалая Сушы пры кафедры гуманітарных дысцыплін. (Дарэчы, сам Мікалай Васільевіч прафесійна займаецца фатаграфіяй. Рэпрадукцыі яго фотаздымкаў упрыгожваюць рэктарат, аўдыторыі і калідоры навучальнай установы.) Увогуле, дзейнасць творчай моладзі МІК выключна разнастайная. Варта адзначыць, што студэнты плённа супрацоўнічаюць з музеем Якуба Коласа, пастаянна і актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх мерапрыемствах, у тым ліку і ў міжнародных канферэнцыях.

За час існавання “Натхнення” выйшлі ўжо чатыры выпускі альманаха. Яго складаюць вершы і ўрыўкі з прозы творчай моладзі Мінскага інстытута кіравання. Па сваёй тэматыцы і праблематыцы гэтыя творы самыя разнастайныя: прысвечаны роднай зямлі, бацькоўскаму дому, цёплым успамінам пра маці, прыгажосці беларускай прыроды, светлым і незабыўным пачуццям першага кахання...

**Віктар КАВАЛЁЎ**

***Фота К. ДРОБАВА***

МУЗЕІ І ГАЛЕРЭІ

# Адсвяткавалі юбілей

Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адзначыў сваё 60-годдзе. Яно супала з юбілейнай датай вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Музей пачаў дзейнічаць з кастрычніка 1944 года, калі ворага гналі на Захад. А матэрыял збіраўся яшчэ з 1942 года. Яго здабывалі будучыя музейныя супрацоўнікі. І невыпадкова вечарына распачалася з уганаравання ветэранаў, былых работнікаў музея. Іх на сёння засталося 12. Выступіў адзін з першых супрацоўнікаў Пётр Мікалаевіч Ганчароў, які ў 1944 годзе прыйшоў на працу ў музей з камандзірства партызанскім атрадам "За Радзіму" брыгады "Беларусь" Мінскай вобласці.

Віншаванні з юбілеем ад імя віцэ-прэм'ера Савета Міністраў РБ У. Дражына зачытаў намеснік міністра культуры РБ У. Градзюшка. Выступілі старшыня Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, пісьменнік Мікалай Чаргінец, старшыня Рэспубліканскага Савета Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, генерал-лейтэнант Анатоль Новікаў, памочнік міністра абароны, начальнік Упраўлення маральна-псіхалагічнай забяспечанасці воінаў, палкоўнік А. Гура, старшыня Камітэта па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў РБ У. Адамушка, начальнік Упраўлення культуры Мінгарвыканкама В. Кураш, Надзвычайны пасол ФРГ ў Беларусі Марцін Хекер, саветнік Пасольства Украіны ў РБ В. Казлоўскі, 1-ы сакратар Пасольства Расійскай Федэрацыі ў РБ А. Ламакін, дырэктар Інстытута гісторыі НАН РБ А. Кавалец, а таксама прадстаўнікі прафсаюзаў, БРСМ, дырэктары рэспубліканскіх музеяў. Усе адзначалі вялікую ролю музея Вялікай Айчыннай вайны ў культурным жыцці Беларусі, выхаванні падрастаючага пакалення.

Сёння музей складаецца з 25 залаў, у якіх сабрана больш за 140 тысяч экспанатаў. За гады існавання яго наведала 14 мільёнаў нашых суайчыннікаў і гасцей сталіцы.

**Янка РАГОЗ**



Фота К. Дробава

# Малітва таленту і духу

Студыя ваенных мастакоў пры Цэнтральным Доме афіцэраў Узброеных сіл РБ, арганізаваная па ініцыятыве міністра абароны Леаніда Мальцава, працуе крыху менш за год. Але яна ўжо заявіла пра сябе, заняўшы адно з вядучых месцаў у справе ваенна-патрыятычнага выхавання, культурнага жыцця сталіцы. Мастацкі кіраўнік студыі, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ Мікалай Апіёк. Дзякуючы яго намаганням, была адкрыта першая выстава ваенна-патрыятычнай тэматыкі "Памяць", прысвечаная 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На экспазіцыі былі прадстаўлены лепшыя творы беларускіх мастакоў, якія сказалі сваё слова пра абаронцаў нашай Айчыны, яе мінулае і сённяшняе. Тут змешчаны працы народных мастакоў РБ В. Грамыкі, Л. Шчамялёва, Г. Паплаўскага, заслужаных дзеячаў рэспублікі Л. Асецкага, А. Дударанкі, І. Міско, В. Уродніча і іншых.

Мастакі — гэта прадаўжальнікі славы і памяці нашай гісторыі. Іх працы — споведзь перад наведвальнікамі выставы і сабой. Яркае сведчанне гэтаму — кніга водгукаў. Шмат цёплых слоў удзячнасці, захаплення, пажаданняў можна тут прачытаць.

"Мы мірныя людзі, але памяць, якая выражана на карцінах таленавітых мастакоў, трывожыць нашы сэрцы. Хай заўсёды будзе мір і шчасце!" — СЯМ'Я МАХНАЧОЎ.

"Дзякуй за вашу ініцыятыву! Бясконцы боль перааэнсаваны на палотнах па-філасофску і з вялікім майстэрствам", — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, палкоўнік у адстаўцы М. ІВАНОЎ.

"Вельмі прыемна, што наша Беларусь мае такую выставачную залу і такую выдатную выставу "Памяць". Кожная праца — малітва таленту і духу. У добры шлях!" — гэтыя сардэчныя словы былі адрасаваны арганізатарам.

Выстава "Памяць" зацікавіла людзей розных пакаленняў і прафесій. З ёю пазнаёміліся ваеннаслужачыя і члены іх сем'яў, ветэраны, курсанты ваенных навучальных устаноў і кафедраў, дыпламатычных ведамстваў і ўдзельнікі дэлегацый з розных гарадоў Беларусі. Усе тыя, хто не можа застацца раўнадушнымі да мастацтва, гісторыі нашай краіны.

У творчых планах студыі мастакоў новыя экспазіцыі, у якіх тэма 60-годдзя Вялікай Перамогі стане дамінуючай.

**Таццяна РАБКІНА,**
**метадыст**
**Цэнтральнага Дома афіцэраў**

# "З дарожнага альбома"

..У Мастацкай галерэі Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка праходзіла выстаўка "З дарожнага альбома — на памятку з вясковага жыцця" Уладзіміра Ракіцкага.

Будучы мастак нарадзіўся ў вёсцы Параслíны, што на поўнач ад Пружан. Ён з'яўляецца адным з першых выпускнікоў "Парната" — Мастацкай школы імя Ахрэмчыка. У 1952 годзе скончыў аддзяленне манументальнага жывапісу Акадэміі мастацтваў у Мінску. Доўгі час займаецца рэстаўрацыяй прадметаў культурнай спадчыны на Беларусі. У 1992 годзе, па запрашэнні арганізацыі ЮНЕСКА, праходзіў курс навучання па рэстаўрацыі насценнага жывапісу. А сёння ў Полацку Ракіцкі вядомы рэстаўратар фрэсак XII ст. Спаса-Праабражэнскай царквы ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры.

Асноўная канцэпцыя выстаўкі — гэта злучэнне мастацкіх вандровак па Еўропе, Італіі, Грэцы з малюнкамі сваіх родных з Пружаншчыны. Так, разглядаючы гэтыя своеасаблівыя мантажныя лісты, узнікае новая думка пра сугучнасць вобразаў, падабенства людзей і іх жаданняў на розных канцах свету.

На прыкладзе графічнага блока з яго малюнкаў пад агульнай назвай "Урок геаметрыі" мы бачым партрэт манаха Лукі Пачолі, які адкрыў спосаб вядзення бухгалтэрыі, прынцыпамі якога карыстаюцца і сёння (дарэчы, да яго кніг па геаметрыі рабіў ілюстрацыі і чарцяжы сам Леанарда да Вінчы). А побач кентаўр, які вучыў музыцы, дзе ноты з'яўляюцца вельмі дакладнымі лічбамі, па якіх і "друкуецца" гармонія. Тут жа і выявы іканапісцаў, у іх працы бачна незвычайная матэматычнасць, асабліва, калі фігура больш за чатыры метры, то зусім неверагодна, як чалавек выканаў без памылак гэты іканаграфічны вобраз. Што цікава, яго сябар з Эфіопіі — Тадэсе — іканапісец, малюе божую маці, менавіта афрыканскую, зусім падобна, як наша беларуская школа, дзе іканапісцы выконвалі твары Багародзіцы і Ісуса падобнымі на сваіх родных і блізкіх, таму што лічылі — Бог у кожным з нас.

Уладзімір Ракіцкі працягвае мясцовую школу. Малюючы сваіх родных, ён ставіць іх побач з інфантамі, нават імя яго дзеда — Антык, у якім "беларуская Грэцыя" пераўтвараецца ў антычнасць.

На выстаўцы мы бачым рысу празрыстага водару міжземнамор'я, агучаную і прыведзеную да нас вобразамі продкаў пастаць мастака.

Адначасова замалёўкамі непасрэдна ў Грэцыі і Італіі майстра ўратоўваўся ад навалы — з усіх бакоў назапашанай чалавецтвам культуры, што сваёй велічнасцю міфаў, багоў, мастацкім уздзеяннем гучыць як гімн, нібыта сцвярджае — такое немагчыма стварыць простаму смертнаму.

Рэстаўратара-мастака цікавіць, як выкарыстаны выразныя сродкі розных гістарычных эпох. Робячы копіі, пачынаеш разумець дысцыпліну мастака, глядзіш другімі вачыма.

Са слоў Ракіцкага: "Пакладзеныя ў выставу малюнкі — гэта той кароткі момант, які прымушаў маю руку хапацца за алавік і маляваці хутка і спрытна... то фотаздымкі з хатняга альбома, то другім разам — на памятку з вандровак па музеях Італіі і Грэцыі... Іх можна перакласці, і з'явіцца іншая карціна, можа, тая карціна, якая і была задумана некалі".

Eccetera: perche la minestra si fredda... : "І гэтак далей: таму што пахлёбка стыне" — словы з дзённіка Леанарда, якому не хапала часу пералічваць свае доказы думкі ці ідэі...

І зараз У.Ракіцкі, зачараваўшыся працамі беларускіх мастакоў з пастаяннай экспазіцыі Мастацкай галерэі ў Полацку, апрацоўвае гэтую тэму.

**Алег ПРАКАРЫНА,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Мастацкай галерэі НПГКМЗ**

БІБЛІЯТЭКІ

# На старонках даўніны

Аддзелу рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі споўнілася сорак гадоў. З гэтай нагоды напрыканцы кастрычніка адбыўся "круглы стол" пад назвай "Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў: традыцыі і перспектывы", на якім была абмеркавана шматгадовая дзейнасць аддзела па захаванні і прапагандзе айчыннай кніжнай культуры. Пра велізарную духоўную, гістарычную і матэрыяльную каштоўнасць літаратурных рэдкасцяў, што знаходзяцца ў фондах бібліятэкі, сведчыла спецыяльная выстава.

Тут можна было ўбачыць рукапісныя кнігі ад Торы XVIII ст. і Карана 1854 г. да зборніка стараверскага ілюмінаванага 2-й паловы XIX ст. Сярод стадрукаў былі: "Евангелле напрастольнае", выдадзенае П.Мсціслаўцам у 1575 г. у Вільні, "Вячэра духоўная", надрукаваная ў Маскве ў 1683 г. С.Полацкім, "Граматыка" М.Смарыцкага (Масква, 1648 г.), "Лексікон славянароскі" П.Бярынды (Куцеін (Орша), 1653 г.) і інш. Прадстаўляліся на выставе і цікавыя матэрыялы з рукапісных архіваў К.Крапівы, У.Дубоўкі, А.Вялюгіна, Я.Драздовіча, У.Караткевіча. Асобна можна было азнаёміцца са шматлікімі публікацыямі супрацоўнікаў аддзела і з навуковымі выданнямі, якія былі імі падрыхтаваныя.

Складаная і карпатлівая праца па зберажэнні і вывучэнні кніжнага багацця працягваецца, і яшчэ для многіх навукоўцаў гуманітарнага профілю аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў стане другім домам.

**Н.Д.**

# На стыку мастацтваў

Нацыянальная бібліятэка Беларусі наладзіла персанальную выстаўку аб'ектаў і жывапісу "Обратная информация" вядомага беларускага мастака Аляксандра Малея. Прадставілі яе аўтарская некамерцыйная канцэптуальная галерэя "Брама" пры інфармацыйнай падтрымцы выдання "PRO-дызайн" Беларускага саюза дызайнераў і арганізацыйнай дапамозе Цэнтра сучаснага мастацтва (г. Віцебск).

Аляксандр Малей — ініцыятар і арганізатар шэрагу буйных разнапрофільных акцый, прысвечаных супрэматызму і творчасці К. Малевіча: да "110-годдзя К. Малевіча" ў Віцебску (1988 г.), выставак Цэнтральнага дома мастакоў у Маскве і Іспаніі (1991 г.). Мастак таксама браў удзел у групавых выстаўках, якія праходзілі ў Беларусі, Расіі, Літве, Польшчы, Германіі, Іспаніі і Канадзе.

А. Малей з'яўляецца кіраўніком і лаўрэатам I і II міжнародных пленэраў "Малевіч. Уновіс. Сучаснасць", нярэдка выступае як тэарэтык мастацтва. Ён — аўтар шэрагу артыкулаў і дакладаў на міжнародных канферэнцыях; арганізатар і педагог дзіцячай студыі сучаснага мастацтва ў Віцебску.

Па словах куратара выстаўкі "Обратная информация" Ларысы Фінкельштэйн, гэты праект мастака цікавы сваім становішчам на стыку мастацтваў: арганічным злучэннем традыцыйнага плоскаснага жывапісу (абстрактнага) і аб'ёмнага аб'екта.

**В.К.**

## «Кніжныя рарытэты – у нацыянальную скарбніцу»

У межах акцыі міжнародная кампанія British American Tobacco (BAT) перадала ў дар галоўнай бібліятэцы краіны 39 рарытэтных кніг, агульны кошт якіх складае каля 15,5 мільёнаў беларускіх рублёў. Пошук і адбор экземпляраў праходзіў пры непасрэдным удзеле экспертаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

**Н.К.**

## ВЫДАННІ

Да 10-годдзя кафедры тэорыі Белдзяржуніверсітэта пад навуковай рэдакцыяй загадчыка кафедры прафесара Вячаслава Рагойшы выйшаў зборнік навуковых прац "Актуальныя праблемы тэорыі літаратуры і фальклору". Тут змяшчаюцца працы выкладчыкаў, выпускнікоў, сённяшніх аспірантаў і суіскальнікаў кафедры, асвятляюцца найбольш важныя пытанні ў галіне літаратуразнаўства і фалькларыстыкі.

"Паэтычны слоўнік" Вячаслава Рагойшы з дапамогай выдавецтва "Беларуская навука" зноў пабачыў свет. У гэтым — трэцім, перапрацаваным і дапоўненым, выданні тлумачыцца каля тысячы тэрмінаў па тэорыі паэзіі. Улічваюцца дасягненні сучаснай літаратуразнаўчай думкі ў галіне агульнай паэтыкі і паэтыкі верша, вопыт паэзіі народаў СНД і замежных краін. Асноўная ўвага надаецца гісторыі і тэорыі беларускага верша.




Яшчэ на пачатку XX стагоддзя востра ставілася так званае нацыянальнае пытанне: як беларусам "людзьмі звацца"? На сучасным этапе пытанне нацыянальнай ідэі застаецца ў шэрагу актуальных. Манаграфія Анатоля Астапенкі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце" прысвечана высвятленню сутнасці гэтага паняцця. Выказваючы шэраг як слушных, так і ў многім спрэчных меркаванняў, аўтар разглядае нацыянальную ідэю як праект рэалізацыі нацыі і нацыянальнай дзяржавы. Вялікая ўвага надаецца ўсебаковаму даследаванню такіх вядомых на Захадзе, але мала вывучаных у Беларусі паняццяў, як нацыя і нацыяналізм. Разам з тым, прапаноўваецца новая мадэль эвалюцыі чалавецтва, дзе галоўнымі чыннікамі развіцця з'яўляюцца рэлігія і этнас (нацыя).







У ПОЛІ ЗРОКУ НАТАЛЛІ ДЗЯНІСАВАЙ

# C'EST LA VIE

***"Такое жыццё", — часта гаворым мы, паўтараючы вядомае французскае выслоўе. "Што ёсць наша жыццё?" — іншым разам задаём сабе пытанне, аднак памятаем: жыццё — тэатр... Падобныя думкі наведвалі і мяне ў час чытання часопісаў "Маладосць", "Полымя", "Нёман", якія выйшлі ў лістападзе.***

**"Маладосць" №10.**

*"О, маё жыццё, мой танны тэатр!"* — усклікае галоўная гераіня (а разам з ёй і аўтарка) апавядання **"Дэкарацыі" Югасі Каляды**. — *Якія яшчэ ролі запрапануе мне твой нябачны рэжысёр? Напэўна, я кепская акцёрка — ніяк не магу напоўніцу ўжыцца ў ніводную з роляў..."* Добра, што "Пра сваё, пра жаночае" маладая пісьменніца расказвае без залішніх падрабязнасцяў і доўгіх апісанняў. Строгая сцісласць, уласцівая аўтарскім рэмаркам у драматургічных творах, увасоблена ў апавяданні ў дакладныя штрыхі, з дапамогай якіх ствараецца малюнак — эпізод з жыцця, дзе ёсць кароткая гісторыя кахання, няспраўджаныя жаданні і непаразуменне.

**"Шкляныя горы, альбо Праграміст Чароўнай даліны"**, — так называецца п'еса **Раісы Баравіковай**, напісаная для школьнага тэатра. А калі больш дакладна, то, згодна з аўтарскім жанравым вызначэннем, гэты твор — *"камп'ютэрная гульня ў сцэнічным увасабленні ў дзвюх дзеях (паводле беларускіх народных казак, з элементамі фантастыкі)"*. П'еса незвычайная па сваёй структуры: тут цесна пераплятаюцца сучаснасць, фантастыка і міфалогія. Разам з казачнымі персанажамі — Аленай-Красой, Кашчэм-Несмяротным і інш., — дзейнічае, напрыклад, Мабільнік, але, як і павінна быць, дабро і каханне перамагаюць зло.

Выказванне Ш.Баллера "Жыццё — гэта бальніца, дзе кожны пацыент марыць перабрацца на другі ложак" можна было б зрабіць эпіграфам да фантазіі-дасье **Юрася Нератка "Прашу разабрацца..."**. Тут у фабульнай аснове — пала틴ы лёс чалавека, няшчасці якога прадвызначаны, можна сказаць, гістарычна, і абставіны прымушаюць яго іграць розныя ролі па вар'ята. Арыгінальнасць формы твора, абумоўленай жанрам, дае аўтару магчымасць паказаць жорсткую абсурднасць жыцця.

**"Прыцемкі"** — апавяданне **Івана Карэнды**, якое можна назваць замалёўкай з натуры. Пісьменнік распавядае пра тое, як і на прыцемку жыцця могуць адбыцца лёсавызначальныя перамены, як часам перакрэсліваецца ўсё светлае, што дапамагала жыць, і разбураецца тое, што здавалася непарушным.

*"Я болей жыву ў сабе, са сваёю душою, у якой незлічона перажыванняў..."*, — піша **Ніна Маеўская** ў аўтабіяграфічнай аповесці **"Непрыветны горад N."** — *"Гэта проста дзённікавыя нататкі, даўнія, можа, яшчэ наіўныя, у якіх мне нічога не хацелася мяняць і выдумляць"*. Пісьменніца не памылілася, калі падмуркам твора зрабіла ўласна перажытае ў маладыя гады, захаваўшы свежасць і непасрэднасць тых самых незлічоных перажыванняў. Тут гісторыя кахання пераплятаецца з гісторыяй краіны, падзеі асабістага чалавечага жыцця паказваюцца на фоне гістарычных падзей. І не памылілася Ж.Санд, калі сказала: "Жыццё часцей падобнае на раман, чым нашы раманы на жыццё".

Над жыццём задумваюцца і празаікі, і паэты. Толькі першым уласцівы аналітычны падыход да асэнсавання рэчаіснасці, а другім — пачуццёва-эмацыйны. Свайм неспакойным пачуццям **Анатоль Трафімчык** надаў форму трыялетаў. На жаль, шліфуючы форму, паэт мала ўвагі звяртаў на змястоўнасць. Таму нібыта філасофскія радкі кшталту *"Сусвет вялікі — я адзін"* не надаюць творам адпаведнай глыбіні. Павярхоўнасць — адметнасць гэтай падборкі вершаў, і хай не крыўдзіцца на мяне Анатоль, хочацца звярнуцца да яго з напісанымі ім жа самім радкамі: *"Ты маеш сказаць, але лепш памаўчы, // Паэце, спыніся ў сваім трыялеце..."*

Паэт-лірык **Зіновій Прыгодзіч** *"...нібы распяты на крыжы // Спапялялына-грэшнага кахання"*. Гэтаму светламу і адначасова пакутліваму пачуццю прысвечана падборка вершаў, багатая на эмоцыі і вобразы.

*"Усё, дзеля чаго варта жыць, — воля, творчасць ды асоба"*, — піша паэтка **Болачка** ў прадмове да сваіх вершаў. Юнацкі максімалізм Болачкі ўвасобіўся ў творах, напоўненых шчырасцю, прагай і воляй да жыцця. Творчая асоба паэткі таксама ярка выяўляецца, так што яна не парушае сваё крэда. Аднак, у многім катэгарычныя думкі часам супярэчлівыя, часам спалучаюць несупалучальнае: *"Каб без болю й правіны // Віравала жыццё"* (Хіба ж без гэтага яно будзе віраваць? Хутчэй — павольна плыць.), *"Нас ратуюць пах жывіцы, // Смак бульбы ды кахання словы."* (Дзіўнае спалучэнне!). На жаль, вобразны запас у Болачкі даволі малы, што прымушае яе паўтарацца з верша ў верш: *"Жыццё ж — напятая страла"*, *"І цішыня — нібы напятая страла"*.

*"Так і жывецца"*, — нібы ўздыхае Сяргей Панізнік. — *"Па карнявішчах крадуся, // па камлёвай кары шкрабуся...// Углядаюся // у зажмураную крону // Радаводнага Дрэва..."* Як заўсёды, багатыя на глыбокія філасофскія думкі і неадназначную вобразнасць, вершы прымушаюць усур'ёз задумацца над сутнасцю і сэнсам жыцця.

**"Полымя" №10.**

Жыццю супярэчыць смерць, а на вайне, як нідзе, яны заўсёды поруч. Гэту спрадвечную ісціну, як і праблему дабра і зла, яшчэ раз узгадвае **Ягор Конеў** у гістарычнай аповесці **"Амерыканская адысея Тадэвуша Касцюшкі"**. Адчуваецца, што празаік імкнуўся не толькі да ўзнаўлення даўніх падзей і асвятлення гістарычнай ролі асобы Касцюшкі, але і да найбольш поўнай, псіхалагічна дакладнай абмалёўкі характару.

Жыццё непрадказальнае. Яго сюрпрызы часам маюць разбуральную сілу, і каб выстаяць, чалавеку патрэбна вялікая сіла духа. Пра гэта — аповесць **Анатоля Бароўскага "Вужык"**.

"Наша жыццё выглядае як накід", — услед за Ж.Рэнарам можна сказаць, чытаючы абразкі **Лідзіі Арабей "Пошукі ісціны"**. Назіраючы за жыццём у яго будзённасці і штохвілінасці, аналізуючы ўбачанае, пісьменніца адкрывае для сябе і пераасэнсоўвае старыя, як свет, але заўсёды актуальныя ісціны. Развагі пра тое, што добра, а што дрэнна ў Л.Арабей то сур'ёзныя, то іранічныя, у многім не новыя, а ў нечым арыгінальныя... Аднак, *"...калі хто хваліць напісанае мною, я думаю: гэта ён з далікатнасці"*, — прызнаецца пісьменніца, таму я замаўчаю.

Так бы мовіць, паляўнічае апавяданне **Алега Літошкі "Танец цецерукоў"** можна назваць дакументальна-мастацкім. Створанае на аснове рэальнага жыццёвага матэрыялу, яно абцяжарана лішнімі падрабязнасцямі і мае зацягнуты сюжэт.

**Мар'яна Дуксу** не назавеш аптымістам: *"Па лёсе — бяскрайнім полі — // ідзеш ты ад болю да болю."* Яго нізка вершаў **"Свята спагадлівых бяроз"** мае адно вызначальнае слова, адно цэнтральнае паняцце — лёс, які не дужа радуе паэта.

**"І чалавекам будзе чалавек..."** — сцвярджае **Віктар Шніп**, праўда для гэтага трэба прайсці цяжкі шлях, — *"Нам праз пыл, як праз вечнасць, вяртацца // Да сябе, да жыцця, да магіл..."*

Элегічны роздум уласцівы пейзажным вершам **Віталя Гарановіча "Акварэлькі вясны"**, **"Прэлюдыя восені"**,**"Нік зіма не ўвойдзе ў сілу..."** і інш.

*"А што ўзамен яго, замест тых гадоў, // якім аддадзена і сіла, і любоў?"* — задаецца пытаннем **Соф'я Шах**. *"Скрухай застарэлай, // думкай безвыходнай"* напоўнены яе вершы, прысвечаныя яму — жыццю.

Аднак **Таццяне Будовіч** *"свет не здаецца халодным і хворым"*, бо *"не ўсё яшчэ скамянела // у палоне тугі нямой..."* Вобразная і даверліва-шчырая лірыка Таццяны спалучае разважлівасць і эмацыйнасць пачуццяў.

**"Нёман" №10.**

На старонках часопіса сустрэліся творчыя калектывы двух выданняў — "Нашего современника" і "Нёмана". Гэтаму праекту, а таксама пытанню духоўнай еднасці рускага і беларускага народаў прысвечана гутарка галоўнага рэдактара "Нёмана" **Ніны Чайкі** з Дзяржаўным сакратаром Расійскай Федэрацыі **Паўлам Барадзіным.**

Тая ж тэматыка вылучае і агульную падборку вершаў **"Твое имя, Россия!"**, якая аб'ядноўвае творы **Аляксея Пысіна, Максіма Лужаніна, Уладзіміра Карызны, Генадзя Пашкова, Алега Салтука, Яўгена Каршукова, Юрася Свіркі, Міхася Пазнякова, Андрэя Цяўлоўскага.** Увогуле, у гэтым нумары лідзіруе паэзія — такой колькасці вершаў не было яшчэ ні ў адным часопісе.

Творы расійскіх паэтаў вылучаюцца рэалізмам і бескампраміснасцю ў адносінах да жыцця: біблейскія матывы паслужылі падмуркам для напісання філасофскай паэмы **"Рай" Юрыя Кузняцова**. Зварот да Бога, пераасэнсаванне Яго запаветаў характэрныя і для падборкі вершаў **Міхаіла Шэлехава "Железное время"**. **"Смотрю в упор на время роковое"**, — заяўляе **Андрэй Скарынкін**, і **"Сквозь слезы на глазах..."** глядзіць на свет і сучаснае жыццё **Станіслаў Куняеў**.

Прыемна адзначыць, што лірыка беларускіх паэтаў больш разнастайная змястоўна і тэматычна: **Таіса Бондар** прапануе створаныя ў фальклорным ключы і па-філасофску заглыбленыя творы з **"Книги песен"**. Светлая і пяшчотная лірыка кахання складае падборку вершаў **Раісы Баравіковай "Звездой пробьется вечность с поднебесья..."** Жыццё ва ўсёй яго паўнаце і шматколернасці праяў, перажыванняў і настрояў адлюстравана ў нізцы вершаў **Віктара Гардзея "Августовские зарницы"**.

Проза часопіса адрозніваецца рэалістычнасцю апісанняў і глыбінёй закранутых праблем: апавяданне **Івана Шамякіна "Трагедия партизана"** ўздымае маральныя пытанні адказнасці чалавека за свае ўчынкі, вернасці і здрады, паказвае праблему выбару паміж дабром і злом, якая прыводзіць да страшных пакут сумлення.

Фарміраванне характару падлетка ў жорсткіх умовах вайны, дзе даводзіцца вырашаць пытанні экзістэнцыйнага плана, — ідэйна-тэматычная аснова аповесці **Альберта Ліханава "Лежачих не бьют"**.

Гістарычная аповесць **Эдуарда Скобелева "Посещение царем Иваном Васильевичем Тригорского монастыря"** выдатна перадае каларыт той эпохі. Але персанажы твора здаюцца крыху карцціннымі, бо шмат увагі надаецца вонкавасці, а не псіхалагічнай абумоўленасці ўчынкаў і дзеянняў.

Любы мастацкі твор, пра што б ён ні быў напісаны, у пэўнай ступені адлюстроўвае жыццё і светапогляд аўтара. І колькі б ні ствараліся літаратурных адбіткаў жыцця, яго рэзервы застануцца невычарпальнымі, бо яно — жыццё — бясконца разнастайнае і шматварыянтнае, яно... такое.



Нічога не скажаш: маладая ды ранняя. І гэтаму хочацца радавацца, што беларускае паэтычнае слова (Рыгор Барадулін у цёплай прадмоўцы да кнігі —"Каб неба сагрэць..."— "Чаканая апантанка" гаворыць інакш —"Жыве крывіцкая паэзія. Жыве крывіцкае слова...") па-ранейшаму дае шчодрыя ўсходы, а часам, як і ў гэтым выпадку, вельмі раннія, ды нездарма ў народзе сцвярджаюць: рунь халадоў не баіцца.

Сцвярджаючы падобнае, прадбачу скептычныя ўсмешкі тых (іх, на шчасце, адзінкі), хто сам, дасягнуўшы ў літаратуры зусім нямногага, аніяк не можа змірыцца з думкай, што некаму лёгка даецца пакарэнне творчых вяршынь, а тым больш не прымае "вундэркіндаў"). Ды, як кажа ў падобных выпадках адна мая знаёмая, Бог ім суддзя. А каб чытач змог упэўніцца, што ацэнку кнігі В. Куставай "Каб неба сагрэць..." ніколькі не завышаю, раю яму самому пазнаёміцца з гэтым зборнікам. Тады будзе лёгка ўпэўніцца, што юная паэтэса (В. Кустава вучыцца на трэцім курсе Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры) і сапраўды ўваходзіць у паэзію, а калі глядзець шырэй, — у літаратуру вельмі ўпэўнена.

Хоць бы ў гэтым выпадку:

*... І на гукі сівой сурмы,*
*як аблокі, бягуць сланы —*
*круглабокія, бы збаны,*
*ружавокія ўсе яны,*
*як з дзіцячых малюнкаў сны...*

І, вядома ж, паэтэсу не пакідае прагавітае жаданне разабрацца ў тым, хто ж ты сама ёсць у гэтым свеце. Вядома, аўтары больш сталыя ў падобных развагах могуць дасягнуць большай сэнсавай напоўненасці радка, але мне стае таго, што ёсць у В. Куставай, бо, прамоўленае ёю, выказана вельмі шчыра — так, як і бывае падчас сапраўднай споведзі, калі менш за ўсё думаецца пра моўную аздобу твора, а сапраўдную радасць у душы выклікае ўжо сама магчымасць выказацца. Так выказацца, каб цябе пачулі і да цябе прыслухаліся:

*Кожны вечар*
*малюся,*
*уздымаючы вочы,*
*то на абразы,*
*то на нябёсы.*
*На каленях...*

# І небу цёпла, *калі яго талент саграває*

Хораша сказана, адразу за душу бярэ, і адначасна нараджае замілаванне пабачаным. Але, пабачаным, хоць тое, пра што расказвае Валерыя Кустава не на свае вочы сузіраеш, а менавіта праз яе светаўспрыманне і адчуванне. Тым не менш уражанне такое, што гэтым прыродным хараством здзіўляешся, а не проста схопліваеш яго такім, якім уяўляе яго юная паэтэса. Настолькі ўсё адчута дакладна і гэтак перададзена паэтычна, што быццам перад табой кадры зямнога хараства, якія трапілі ў чуйны аб'ектыў, што можа перадаць усю гаму і каляровую насычанасць малюнка, надаўшы яму жыццёвасць і нерушавасць:

*Рыжым купалам*
*трываліцца зара,*
*туманы ўліваюцца ў разоры,*
*хустку досвітку накідвае гара,*
*маналог апошні шэпчуць зоры.*
*Напаўзае цёплы ранак на крыжы.*
*У траве з дрыготкаю расою*
*ловіць лугавыя міражы*
*светлы хлопчык*
*бацькавай касою.*

За ўсім гэтым выразна адчуваецца вопытная творчая рука. Хоць у дадзеным выпадку вопыт, бадай, іншага кшталту і звязаны ён з уменнем пабачаныя краявіды ўзнавіць так непаўторна, нібыта нешта падобнае даводзілася выказваць неаднойчы і гэта перайшло ў высокае і вялікае майстэрства, на якое здатны толькі той, хто мае талент і ўмее яго належным чынам рэалізаваць. І навет не верыцца, што на час напісання згаданага верша В. Куставай ішоў толькі семнаццаты год.

Дый і сёння ёй не нашмат болей: сваю першую кнігу "Каб неба сагрэць...", выпушчаную выдавецтвам "Мастакая літаратура" ў серыі "Дэбют", яна змагла ўпершыню ўзяць у рукі ў дваццацігадовым узросце. Праўда, і ў дадзеным выпадку не абысціся без маленькага, аднак істотнага ўдакладнення. Названая кніга ў В. Куставай — першая ўласна аўтарская, а дагэтуль ужо была адна — "Кроў Сусвету", што пабачыла свет пад сумеснай вокладкай са зборнікам Дзяніса Старавойтава-Юрчанкі "И пробил уж полночи час", калі Валерыя мела за плячыма ... дванаццаць гадоў.

Што паэтычныя задаткі ў яе відавочныя, засведчылі вершы, якія былі яшчэ не самой Валерыяй напісаныя, а занатаваныя на паперы яе маці, бо тады дзяўчынцы было тры-чатыры гады. А тым больш уражваюць тыя, што пісаліся, калі паспела ўжо адчуць уладную сілу паэтычнага слова, якое ўсё больш прыцягвала да сябе, змушала выказацца, выліць вонкі тое, што не давала спакою. Як у гэтым вершы, які нарадзіўся ў яе ў пятнаццацігадовым узросце:

*Вецер лашчыў*
*смоль густых валасоў*
*зеленавокай прыгажуні.*
*Праз імгненне*
*з той жа лёгкасцю*
*ён бесклапотна гушкаў*
*вяроўкі шыбеніц*
*і лётаў*
*між калючага дроту.*

Пазнейшыя творы, асабліва тыя, што з'явіліся незадоўга да выхаду зборніка "Каб неба сагрэць...", а ўвайшоўшы ў яго, па сутнасці і вызначылі ягоны твар, найперш і прыцягваюць увагу. Па іх бачна, што талент В. Куставай паступова ўсё больш самасцвярджаецца і ўдасканальваецца, набываючы ўсё новыя акрасы.

Валерыя Кустава з аднолькавым майстэрствам піша вершы рознай тэматыкі і стылявой скіраванасці, бо яна хоць цалкам і не адмаўляецца ад класічнай традыцыі, аднак і (апошняе вызначае творчасць ці не пераважнай большасці маладых беларускіх паэтаў) смела эксперыментуе, усвядомлена разбураючы гэтую традыцыю, а да ўсяго (тут В. Кустава рэзка вылучаецца сярод іншых дэбютантаў) пасвойму звяртаецца да фальклорных матываў, звязаных з першасновай існавання жыцця, як бы спалучаючы між сабой багоў антычнасці з язычніцкімі.

Нельга не адзначыць таксама і філасофскую напоўненасць яе радка, а прыняўшы пад увагу ўзрост аўтара, смела можна сцвярджаць, што гэтае праніканне ў жыццёвыя з'явы — не па гадах сур'ёзнае і скіраванае да самай глыбіннай іх сутнасці. А яшчэ ў творах В. Куставай ёсць тое, пра што было сказана на самым пачатку рэцэнзіі — ёмістая вобразная напоўненасць паэтычнага малюнка.

*шырэй далягляд,*
*далей небакрай,*
*вышэй небасхіл.*

Пэўная алагічнасць (звычайна "стаяць на каленях" асацыіруецца з пакорай, нават бязвольнасцю, а тут прысутнічае рэзкая супрацьлегласць, сцвярджаецца, што менавіта падобны стан і дазваляе пабачыць і адчуць шмат з таго, што звычайна пабачыць і адчуць немагчыма) яшчэ больш узмацняе скіраванасць аўтарскай думкі ў загадзя вызначаным напрамку:

*Шукаю адказаў —*
*прагну пытанняў*
*у цудатворнай сінечы,*
*у збавіцельным блакіце.*
*А знаёмыя сузор'і*
*жартуюць з пачуццямі,*
*высвечваюць маё імя —*
*ВАЛЕРЫЯ...*
*Неба таксама цікавіцца:*
*хто я?*

На падобнае пытанне паэтэса дае адказ усёй сваёй творчасцю і гэтым праграмным вершам:

*Здранцвеюць вусны —*
*буду вачыма*
*гаварыць.*
*Выкажу вочы —*
*буду рукамі*
*глядзець.*
*Прагледжу рукі —*
*буду сэрцам*
*вітацца.*
*Развітаю сэрца —*
*буду душою*
*біцца.*
*Разаб'ю душу —*
*буду...*
*Буду.*

Упэўненасць — добрая рэч. У творчасці — тым больш. А калі ўпэўненасць гэтая яшчэ і падмацавана мастакоўскімі набыткамі, дык... Чытайце Вікторыю Куставу. Радуйцеся, што на пачатку камп'ютэрнага стагоддзя паэзія ўсё ж жыве. І будзе жыць, калі ў яе прыходзяць такія яркія таленты.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

**ВЫДАННІ**




У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў беларускі народны каляндар **Аксаны Катовіч** і **Янкі Крука "Зімовыя святы"**. Гэтай кнігай нарысаў распачынаецца сямейнае выданне, прысвечанае гісторыі фарміравання і сістэме сацыякультурных каштоўнасцей беларускага народнага календара. Асноўную ўвагу аўтары надаюць рытуальна-абрадавым комплексам, раскрываюць сэнс і сімволіку абрадавай ежы, адзення, атрыбутаў, міфалагічны і сакральна-магічны змест рытуальных дзеянняў, варажбы і г.д.




Мінскае выдавецтва "Парадокс" прапануе раман **Анатоля Смалянкі "День и вся жизнь"**. У творы, напісаным на ваенную тэматыку, цесна пераплятаюцца дакументальныя падзеі і факты, малюецца нестандартны вобраз галоўнага героя, паказваецца лёс многіх людзей з супярэчлівымі характарамі, асабістымі трагедыямі, раскрываюцца праблемы выбару, дабра і зла.







У серыі навукова-папулярнага выдання "Зямля мая" выйшлі кніга эцюдаў **Алеся Наварыча "Звяры. Сустрэчы з прыродай"** і кніга нарысаў **Сяргея Зуёнка "Птушкі. Крылатая песня Зямлі"**. На сённяшні дзень праблема ўзаемаадносін чалавека і прыроды стаіць надзвычай востра. Гэтыя, ярка ілюстраваныя, цікава напісаныя выданні павінны яшчэ раз звярнуць увагу на "братоў нашых меншых", навучыць паважліваму стаўленню да прыроды і шырэй азнаёміць з яе багаццем.



Віталь ГАРБУЗАЎ

## Дзьмухаўцовы вянок

*Я ніколі не бачыў такога ў снах...*
*Я ніколі не бачыў такога наўкола –*
*Дзьмухаўцовы вянок у яе валасах,*
*Быццам сонечны німб над прыгожым анёлам.*
*Закаханы тануў я ў духмяных лугах,*
*Сустракаючы поруч з анёлам змярканні,*
*Дзьмухаўцовы вянок у яе валасах –*
*Залатая паходня ў краіне кахання.*
*Але стухла паходня – ў хлусні і грахах...*
*Мне няможна кахаць, пэўна доля такая –*
*Дзьмухаўцовы вянок у яе валасах*
*Нехта іншы цяпер беражліва кранае...*
*Вось цяпер я жыву, як у жудасным сне,*
*Думка-пастка трымае ў надзейным палоне:*
*Няўжо і каханне прыснілася мне,*
*І прыгожы анёл ў дзьмухаўцовай кароне?..*

## Песня

*Гэта ноч-акіян адзіноты,*
*Бо цябе няма побач са мной.*
*Я накрыты лавінай гаркоты*
*Успамінаў, што сталі маной.*
*Вось ліхтар ярка-ярка палае,*
*Нібы донар начнога святла,*
*Але гэтага мне не хапае*
*Без кахання твайго і цяпла.*
*Гэта ноч – спадарожніца лёсу,*
*Я адзін. Я нічый. Я не твой.*
*Я ніколі, ты чуеш, ніколі*
*Не хацеў ведаць волі такой.*
*Вось ліхтар ярка-ярка палае,*
*Нібы донар начнога святла,*
*Але гэтага мне не хапае*
*Без кахання твайго і цяпла.*
*Гэтай ноччу забіта надзея*
*На каханне тваё і маё.*
*Больш цябе не сустрэну нідзе я*
*Гэта ноч прыпыніла жыццё.*
*Вось ліхтар ярка-ярка палае*
*Быццам сонца няздольнае грэць*
*Але гэтага мне не хапае*
*Без кахання я згодны на смерць...*

* * *

*Аблокі – плытамі па небу,*
*А вецер – змяёй па зямлі,*
*Тут промні на сонную глебу*
*Каронай Ярылы ляглі...*
*Сустрэча – закладніца лёсу,*
*Каханне на тло не згарыць,*
*Бо вочы пад колер нябёсаў*
*Даюць моцы дыхаць і жыць...*
*Жыве ў спакусліваі мары*
*Бязлітасны водар граха*
*І нат безнадзейнасці хмары*
*Мне не забароняць кахаць...*
*Аблокі – плытамі па небу,*
*А вецер змяёй па зямлі*
*Прачнулася сонная глеба*
*Зялёным кастром на раллі!*

* * *

*Жоўтым яблыкам сонца вісіць*
*На абрусе блакітнага неба,*
*Гэта значыць – наш край будзе жыць,*
*Для жыцця больш нічога не трэба.*
*Мы павінны з табою спазнаць,*
*Што Радзіме далёка да скону*
*Покуль будуць буслы гадаваць*
*Сваіх дзетак у ліпавых кронах.*
*Мы павінны з табой зразумець,*
*Што жыццё, як струна не парвецца,*
*Покуль будуць крыніцы звінець,*
*Адгукнуўшыся рэхам у сэрцы.*
*Жоўтым яблыкам сонца вісіць,*
*Па абрусу блакітнага неба,*
*Белы бусел анёлам ляціць,*
*Край жыве – больш нічога не трэба!*

* * *

*Зіма ізноў прыпудрыла зямлю,*
*Пад белай коўдрай спачывае горад,*
*А я сняжынкі вуснамі лаўлю*
*І забіваю подыхам іх холад.*
*Мая душа хавае рэшткі шкла,*
*Што засталіся мне на развітанне,*
*Пасля таго як моўчкі ты сышла,*
*Разбіўшы здрадай кубачак кахання.*
*Я б запаліў бутоны ліхтароў*
*Сваёй душы, я ж да святла ахвочы,*
*Але баюся там убачыць зноў*
*Яе журбой засмучаныя вочы.*
*Зіма паслала замяць на зямлю,*
*Пад белай коўдрай спачывае горад,*
*Сваё цяпло я снегу аддаю,*
*Бо штосьці ж трэба саграваць у холад.*

---

Васіль РАГАЎЦОЎ

* * *

*Як гром на жагнанне маланкі,*
*зярнятка на дыханне глебы,*
*як маці на покліч дзіцяці, –*
*на Слова, Душа, адгукніся!*

* * *

*Самае дарагое –*
*не тое, што згубіў,*
*а тое,*
*што страціў.*
*Бо згубленае*
*можна й знайсці,*
*а страчанае –*
*ніколі.*

* * *

*Кажуць,*
*перад Богам усе роўныя.*
*Як шкада –*
*не на гэтым свеце.*

* * *

*На заснежаным падворку*
*адзіныя слядочкі –*
*сінічак.*

* * *

*З бояззю*
*праклёўваецца жыта:*
*ці закрасуе?*

* * *

*Нібыта шалеюць –*
*Стракочуць конікі.*
*Сенакосная песня.*

* * *

*Прыпыніся, чалавеча:*
*з бярозкі ападае*
*апошні лісток.*

* * *

*Адно і жывём, што вяртаемся:*
*з дня сённяшняга –*
*у мінулы,*
*з мінулага –*
*у сённяшні...*
*І губляцца – не губляемся,*
*і сябе – не знаходзім...*



**Мал. Ул. Лукшы**

# У камеры №142

## (урывак з рамана)

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ



**Не спадзяваўся, што сярод герояў маёй “хронікі” (якую друкуе “Полымя”) з’явіцца постаць Піліпа Пестрака. Зрэшты, а чаму б і не? Без Пестрака XX стагоддзе, пра якое я вырашыў напісаць, было б відавочна няпоўным, тым больш што гэты чалавек не выбіраў у сваім нялёгкім жыцці бакавых, акольных дарог сярод заблытаных шляхоў адшумеўшай эпохі, ішоў яе бальшакамі, якія ўвабралі ў сябе шмат нашых надзей і спадзяванняў, аднак, як аказалася, таксама не заўсёды вялі да жаданай мэты. Я люблю яго раман “Сустрэнемся на барыкадах”. Пестрак — гэта наш філосаф. Па тыпу мыслення я аднёс бы яго да “дасакрацікаў”, якія яшчэ моцна сябравалі з міфалагічным станам чалавечай свядомасці і шчодра жывіліся — чаму сёння можна толькі пазайздросціць — прыроднымі імпульсамі чалавечага побыту, існавання і думання. П.Пестрак цудоўна перадаў гэта, хаця і з пэўнымі выдаткамі, у сваіх творах.**
**Але спынюся, не буду раскрываць усе “карты” і апярэджваць думкі чытача.**

**Аўтар**

А як склаўся лёс Косці? Ён таксама бадзяўся па свеце — па “казённых дамах”, як называюць гэтыя месцы варажбіткі, калі гадаюць на картах. У Брэсцкай турме праседзеў нядоўга, усяго толькі некалькі месяцаў. Затым былі віленскія Стэфанская і Лукішкі, пра якія ў народзе казалі: “Лукішкі выматваюць кішкі”. Адзіночка. Дамагаўся пераводу да палітычных у агульную камеру. Яго перавялі ў камеру нумар 142. Таксама адзіночка — яна аказалася адзіночкай на дваіх. Па доўгіх калідорах вёў наглядчык у зашмальцаванай уніформе з вялікай звязкай ключоў у руцэ і напучанымі вачыма какаініста. Турэмнымі пераходамі падняліся на трэці паверх. Усунуўшыся праз вузкія, акаваныя жалеззем дзверы, якія адчыніў наглядчык, Косця па звычцы прыкінуў плошчу: чатыры крокі ў даўжыню, тры — ушыркі. Зірнуў на прымкнёныя да сцяны два жалезныя ложкі з саламянымі матрацамі. Злева стаяла параша — неад’емная спадарожніца турэмнага жыцця. Пахла мачой і чымсьці застарэлым.

Тут ужо месціўся нейкі чалавек, які сядзеў на столаку ў процілеглым ад парашы кутку. Апрануты як і Косця, у турэмную робу. Спакойна паглядзеў на ўвайшоўшага. Вочы — вузкія, пранікліўыя, над ілбом пуклілася шырокая плешына. Выглядам сваім ён быў падобны на грэцкага філосафа Сакрата, якім яго падавалі ў падручніках па гісторыі (у той мінскай школе, дзе калісьці вучыўся Косця, выкладалі і гісторыю). Не стары, але ўжо добра сталы. На абліччы сляды паважнай стомленасці і разам з тым прыхаванай велічы. Калі крокі наглядчыка аціхлі ў канцы калідора, яны пачалі знаёміцца. Той, што сядзеў на табурэтцы, першы падаў руку:

— Піліп Пестрак, — прамовіў ён, зрабіўшы націск на першым складзе:

— “Пестрак”. — Сядай! — паказаў на невысокі зэдлік, што стаяў насупраць. Косця сеў.

Даведаўшыся, што перад ім палітвязень, Піліп устаў, моцна абняў, а потым, крыху як бы хістаючыся, падышоў да прыкаванага да сцяны стала, дастаў з-пад алюмініевай місачкі кавалачак шэрага турэмнага хлеба і падаў яго сябру: “Перакусі”. У самога ў вачах —было відаць — затаіўся звычны для вязняў галодны бляск. Косця адмоўна пахітаў галавой.

— Еш! — настойваў Пестрак, нават пажартаваў: — У турме трэба есці —закусваць будзем на волі.

— Я еў.

— Панюхай хаця — пах хлеба карысны для лёгкіх. Я часам кладу хлеб вось сюды, — Пестрак паляпаў сябе далонню па патыліцы, — скулы ўскокваюць, дык я ад іх хлебам ратуюся.

— Гэта вам падарожнік трэба прыкладаць, або альховы ліст. Народны сродак, дапамагае.

— Я ведаю, але дзе ж ты яго дастанеш. А хлеб — ён, браце, гаючы. Панюхай!

— Дзякуй.

— Цяжка?

Косця палічыў пытанне новага знаёмага рытарычным і прамаўчаў. Зірнуў уверх, пад столь, дзе знаходзілася закратаванае акенца. Неба не ўбачыў — яго засланяў паддашак, які навісаў над запыленым і брудным шклом.

— Спартаку было цяжэй, — суцешыў новы знаёмы, зноў сеўшы на столак. —Яго распялі.

— Хто? — не зразумеў Косця.

— Вядома хто — тагачасныя паны, класавыя ворагі. Яны і тады былі.

Пра паўстанне Спартака Піліп ведаў яшчэ з прафесарскай лекцыі, калі вучыўся ў Самарскім універсітэце, — было гэта ў 1920-м годзе, у часы бежанства, у Расіі. Цяпер тыя веды ён перабудоўваў на новы, марксісцкі лад.

— Ну ясна, — адказаў суразмоўца, успомніўшы, што і ён калісьці чуў пра Спартака.

— Вялікі чалавек быў, гэта ж такую масу рабоў павесці за сабою! Сотні тысяч войска!

— Правадыр!

— А па сутнасці такі ж самы рэвалюцыянер. Ворагаў не шкадаваў, бо і яго не шкадавалі. Гладзіятар, адным словам. — Піліп урачыста падняў уверх руку і прадэкламаваў: “Хто я? Я рымскі гладыятар. Я — паншчыны катаўскай бунтар!..”.

Косця яшчэ раз агледзеў камеру і чамусьці ўспомніў Кляновіка: "А можа, і ён калісьці тут, на Лукішках, сядзеў? Можа, нават у гэтай камеры? Вось з ім бы сустрэцца! Але не, не давядзецца. Далёка цяпер Кляновік...". Перад ім знаходзіўся іншы таварыш, але таксама, відаць, цікавы.

— А ў нас, браце, свой вораг: нашы паны ды паўпанкі жыцця не даюць! Шляхта! Хутаранцы! Паны! Гэта ж нас, каб ты ведаў, яны меншасцю лічаць, а мы — народ! Але па часе справімся і з панамі! — Піліп устаў, зрабіў колькі крокаў па камеры, спыніўся, рубануў рукой: — Фашыстоўцы! Навіслі, як чорныя хмары. Ну, але пачакайце!

— Фашысты — у Германіі, — удакладніў Косця. — Гітлер. Гэта самы першы фашыст. Узяў уладу пры дапамозе такіх, як і сам, буржуяў ды зладзеяў, аб’яднаў іх у атрады штурмавікоў. Усеагульную вайсковую павіннасць аб’явіў, франкістам дапамагае. Хітры! Але Георгій Дзімітраў — дапамог разабрацца, што нясе Германіі Гітлер!

— Што ён нясе Германіі — гэта вядома, — паважна сказаў Піліп, павёўшы брывом. — Некалі французская рэвалюцыя, панімаеш, Напалеона спарадзіла, які сусветную імперыю хацеў утварыць пад сваёй уладай, а цяпер таго самага хоча Гітлер. Фашыстоўцы — і адзін, і другі. Пра гэта ж і ў кнізе піша — “Mein Kampf”. Вось і Тэльмана за краты кінуў, як тут гэтыя мяне. Чуў?

— Чуў.

— Фашыстоўцы!

— Цесна, відаць, ім разам — адному і другому.

— Калі б па-іншаму было, дык, я табе скажу, і Тэльман бы Гітлера пасадзіў. Тут хто каго першым пасадзіць...

— Ну, гэта, можа, і не зусім так...

— Я ведаю, што кажу. — У голасе Піліпа пачулася павучальнасць. — Пра многае думаў. Я тут даўно. У студзені была амністыя, некаторых, панімаеш, выпусцілі, ну, у асноўным драбязу, а мяне, браце, трымаюць, не хочуць выпускаць. Цяпер вайскоўцы пры ўладзе. Але перасядзім і вайскоўцаў! Праўда ў Пінскай турме было надта цяжка. Лукішкі пасля Пінскай — рай. У Пінску мне пальцы ў дзвярах шчамілі, а ў Брэсце на табурэтку саджалі. Усяго зведаў.

Турма, браце, для мяне стала як родная хата. Я нават, прызнаюся табе, паціху ганаруся гэтым. А што? Пасядзі з маё! Летам — гарачыня, зімой — холадна, як у лядоўні, да нутра дрыжыкі прабіраюць. Але ёсць і ў пакутах насалода. Толькі гэта трэба адчуць...

Ён засмяяўся нейкім знарочыстым, натужлівым смехам, які тут жа перавёў у кашаль. Адкашляўся і загаманіў зноў:

— Я ж, браце, у Пінскай турме і галадоўку перанёс. Пяць дзён галадаў, на шосты, праўда, не вытрымаў... — Піліп зрабіў паўзу, як бы яшчэ раз узважваючы тое, што казаў. Потым зноў сеў на столак. — Турма навучыла, браце, сядзець. Хадзіць — адвучыла, — паскардзіўся ён. — На волі давядзецца зноў, нанова авалодваць гэтым уменнем. Але авалодаем!

Памаўчаўшы, дадаў:

— Чалавек, які не спазнаў гора, не чалавек. Жыццё — штука складаная. Над намі віхры выюць! Віхры выюць, і фашыстоўскія кулі свішчуць! А правакатараў колькі! Ой, браце! Апісаць бы ўсё гэта ў кнізе, што мы цярпім! Вялікая б кніга атрымалася — раман!

Вязень падняўся ізноў і доўга соўгаўся па камеры — тры крокі ў адзін бок, тры ў другі, — бічаваў і пляжыў сусветны фашызм і мясцовую шляхту. Косця адчуў, што да шляхты у яго меўся нейкі асабісты рахунак і непрыязь.

Зрэшты, так яно і было на самай справе і цягнулася яшчэ з дзіцячых гадоў, ад вясковых уражанняў і ўспамінаў, калі малы Піліп быў сведкам варожых адносін паміж вясковай шляхтай і мужыкамі. Адны на другіх лезлі з каламі.

— А ўсё ж такі, таварыш, сусветная рэвалюцыя немінуча! — скончыў Пестрак і рэзка махнуў рукой. — Толькі яе не чакаць, а рыхтаваць трэба! Я, браце, такі! Мне або жар давай, або холад — сярэдзіны я не люблю. Прызнаюся табе: толькі там добра сябе пачуваю, дзе палае рэвалюцыя, дзе барацьба ідзе!

— Трэба браць самім, што нам належыць, — падтрымаў таварыша Косця. — Як у Расіі. Там дамагліся, цяпер усё належыць працоўным масам. Вось, кажуць, і картачкі адмянілі.

— У СССР добра, — пагадзіўся Піліп, зноў апусціўшыся на столак. — Сталін жа сказаў: “Жыць стала веселей”. Нашы хлопцы таксама, відаць, не блага там прыжываюцца.

—Як хто...

— Мы цяпер тут, у Польшчы, працуем для сацыялістычнай рэвалюцыі. — Піліп крыху памаўчаў і дадаў: — Так вучыць Ленін. Вывучай, браце, марксізм, асабліва тэорыю гістарычнага матэрыялізму — там на ўсё знойдзеш адказ.

Пралетарыі ўсіх краін — гэта неадольная сіла! “Призрак бродит по Европе, призрак коммунизма...”. Марксізм трэба любіць — там, браце, адказы на ўсе загадкі быцця. Ну і Леніна чытаць трэба. Асабліва яго кніжку “Што рабіць?”. Выдатная рэч! Мы, як навальнічны авангард, ва ўсім павінны разбірацца, усё ведаць. Для гэтага мы і народжаныя!

— Арганізаванасці нам не хапае, — уздыхнуў Косця. — Трэба дапамагчы людзям, каб на правільны шлях іх паставіць, каб заадно! Але вось што цікава: чым большыя поспехі КПЗБ, тым больш яе праследуюць — і ворагі, што зразумела, але і нават сябры.

Піліп незадаволена пачмокаў сухімі вуснамі і працягнуў прамову:

— Што праўда, то праўда, арганізаванасці не стае, і свядомасці не хапае. Вялікая рэч — свядомасць. Гэта я ў Расіі зразумеў. Рэвалюцыйная свядомасць! Потым, панімаеш, калі разважаць далей, то і згоды нам бракуе. Няма згоды, хоць ты плач! Хоць на каленях прасі: “Хлопцы, будзьма заадно!”. А яны — як дзеці! Кожны хоча сам з цацкай бавіцца. Ну, зразумела, слабейшыя адыходзяць ад нашай справы. Не вытрымліваюць. Так, браце, было заўсёды. Некаторыя нават пераходзяць у варожы лагер. Рэнегаты! З такімі трэба рашуча змагацца. Тут няньчыцца не маем права! Ёсць яшчэ і такія, што супрацьстаўляюць сябе масе. Зазнайства не вядзе да дабра. Часам і кіраўнікі гэтага не разумеюць. Я помню, як у Расіі грымеў Троцкі — не менш за Леніна! Ого! А дзе ён зараз? — Піліп пацiснуў плячыма. — Як май змаяваў.

— Хто яго ведае, за мяжой недзе. Такі не прападзе. Прагналі яго, бо надта прыспешваў ён наша дзела і вышэй за ўсіх хацеў падскочыць. Апярэдзіць хацеў усіх. Ну, вядома, і ўлады дамагаўся. Новую рэвалюцыю хацеў пачаць.

— Сутнасць нашага жыцця — барацьба, — задумліва прамовіў суразмоўнік і глыбакадумна правёў далонню па пукатым ілбе. — Меркаваць аб чалавеку будуць не па тым, што ён калі зрабіў — добрага ці благога, а па канечным выніку яго жыцця, па выніку барацьбы. Гэтыя словы, дарэчы, любіў калісьці Кляновік. Я добра яго помню — выдатны таварыш! Сядзелі разам. Эх, Андрэй-Андрэй!

— Дык вы яго ведалі?

— Дзіва што! І ведаў, і гаварыў, як вось з табой. Далёкага палёту быў таварыш! Арол з вялікай літары. Скажа бывала: “Ты паэт, Піліпе, а я практык. Але лінія ў нас адна!”.

— Зайздрошчу я вам! Гэта шчасце — сустрэцца з такім чалавекам! Сапраўды з вялікай літары.

Піліп скрушна пачасаў за вухам і з нейкай прыкрасцю сказаў:

— Чуў я, што яго ў трацкізме абвінавацілі...

Тут Косця паказаў сваю дасведчанасць:

— Каб толькі ў трацкізме...

— А што яшчэ?

— Ды, відаць, шмат што. Прайшла пагалоска, што трапіў пад уплыў ўкланістаў.

— А што ж гэта — укланістыя?

Косцю няёмка было прызнацца, што ён і сам не надта ведае, хто такія ўкланісты, пагэтаму ён сказаў:

— Ну, каторыя не згодны з лініяй...

Піліп няўцямна пакруціў лысай галавой, глыбака пазяхнуў і зноў ціха загаманіў:

—Вінаваты ён ці не, таго сказаць не магу. Партыі тут, браце, відней... Ва ўсім, я табе скажу, капіталісты вінаватыя шкодзяць, шпіёняць, паклёпнічаюць. Гэта, браце, змова. Партыя вядзе жорсткую бітву! Ворагаў у нас, як вашэй. Чыстка трэба. Як у Расіі.

— Цяпер іх у Расіі ўрадзіцелямі называюць.

—Як?

— Ну, шкоднікамі. Каторыя шкодзяць.

— Вось-вось! Шкоднікаў шмат! Шкоднікаў, здраднікаў, рэнегатаў, правакатараў! Гэта шляхта ўсё вырабляе! Хутаранцы! Фальваркоўцы! Фашыстоўцы! Не проста выйсці пераможцам у класавай барацьбе з імі. Ох, не проста. Што-што, а замаскіравацца яны ўмеюць. Вось і Кляновік, відаць, стаў іх ахвярай. А хіба толькі ён?.. Гэта — па-першае. А па-другое, для нас, браце, хто ў камуністы запісаўся, і сам прынцып вельмі важны. Барацьба! Барацьба да канца. Інакш гарантыі няма. І з сабой змаганне! З лянотай, з бяссіллем, з дурнымі жаданнямі, з цямрэчай! — Піліп ізноў з шумам уцягнуў у сябе паветра і з шумам яго выдыхнуў, як бы абураўся ці на кагосьці скардзіўся, шукаў вінаватага. — І нічога не зробіш, рэвалюцыянеры гінуць у гэтай барацьбе першымі.

— Цяпер Кляновік, кажуць, у Бійску, на гаспадарчай рабоце. Гэта недзе ажно ў Алтайскім краі. Без канвою паехаў...

— А можа, ён там?..

—Дзе?

—Ну, у Іспаніі...

—Не.

— І катаванні, панімаеш, не зламілі яго. Барацьбіт — што і казаць! Баюся, што на гаспадарскай рабоце яму будзе цяжка. Што гаспадарка! Яму ў рукі паходню! Яркая асоба! Разваротлівы!..

— А пра Прытыцкага чулі?

— Чуў! Герой! За каўнер схапіў Стральчука і пакараў! Волю партыі выканаў. Чатыры кулі ўсадзіў!

— Столькі вытрымаў! Ішоў да канца. Не кожны, мусіць, так зможа. Не кожны. Чатыры разы з пісталета бабахнуў! Я часам пра сябе думаю: “Ці здолеў бы, ці змог бы?..

— Што ж, змаганне нараджае герояў, — Піліп разважна зрабіў паўзу, — героі ёсць, толькі вось народ нас мала чуе. Слаба нешта ён нас падтрымлівае...

Косця нічога не адказаў. Яны памаўчалі, і Піліп рашуча памяняў тэму гаворкі: — Ты пра ўсё ведаеш, дык, відаць, газеты чытаў?

— А як без газет?

— Ну, дык, можа, і вершы Звястуна сустракаў? Ці мо чуў ад каго? Пытанне было даволі нечаканым, Косця памаўчаў, як бы нешта ўспамінаючы і кіўнуў галавой:

— Пэўна ж сустракаў. Паэтаў цяпер шмат: Жылка, Салагуб, Машара, Васілёк, Паўлюк Сірата, Граніт, Танк... Аднаго я асабіста ведаў — Гаўрылюка. Аляксандра Гаўрылюка.

— Ёсць такі паэт, — пагадзіўся Піліп, — наш, нелегальны. Добры паэт, дарэчы. Бо ёсць такія, што да нашай справы прымазаліся, сапраўднага нутра ў іх няма. З багаценькіх! У бацькі зямлі пятнаццаць дзесяцін ды кароў статак, а ён — пралетарскі паэт!.. Да такіх, браце, у мяне веры няма.

Косця яшчэ раз уважліва паўзіраўся ў свайго новага прыяцеля, які пасля непрацяглай паўзы прызнаўся:

— Адкрыюся табе: Звястун — гэта я. Звястую, браце, аб лепшай долі. Не ўсё трапляе ў друк. Цэнзура, каб на яе ліха! Лепшае якраз і не пускае.

— Праўда? Вы пішаце вершы?

— Складаю час ад часу. Хочаш — пачытаю, нядаўна зрабіў адзін моцны верш. Тэматыка ў мяне шматстайная, ёсць сур’ёзныя вершы, а ёсць і лірыка. Ведаю, што нельга гэта, але... складаецца. На тым тыдні напісаў заяву начальніку турмы, каб дазволіў карыстацца чарнiламі. Адмовіў. Баіцца майго пяра. Дык я складаю вусна. Думкі самі прыходзяць.

Паэт не прымусіў сябе шмат прасіць, адразу ж набраў у лёгкія паветра, адкінуўся назад, прымружыў вочы і, крыху тэатральна крануўшыся далонню ілба, пачаў:

(Заканчэнне на стар. 12)

# Арт-пацеркі

◊ Дні Рэспублікі Беларусь прайшлі ў Італіі. Адной з галоўных падзей гэтай восеньскай акцыі сталася выстаўка ў Трыесце беларускага іканапісу XVI-XVII стст. з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея РБ.

◊ 5 лістапада Прэзідэнт нашай краіны павіншаваў з 50-годдзем народнага артыста Беларусі прафесара Ігара Алоўнікава. Адзін з вядучых салістаў Белдзяржфілармоніі, І.Алоўнікаў сустрэў свой юбілей у росквіце сіл і з выдатнымі набыткамі — як творчымі, так і педагагічнымі. Аматары мастацтва, калегі ды вучні ведаюць яго не толькі як піяніста-віртуоза, але і як align="justify" living разнабаковага музыканта. Ігар Алоўнікаў выступае і як арганіст, і як выканаўца на клавесіне. Таксама ён — аўтар стыльных аранжыровак старадаўняй беларускай фартэпіяннай спадчыны. А яшчэ — стварае транскрыпцыі (пералажэнні) для фартэпіяна, для аргана самай рознай музыкі, выяўляючы бліскучую фантазію, густ, кампазітарскі дар.

◊ У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, які святкуе сваё 65-годдзе, адкрылася выстаўка пад назвай "Нясвіжскія зборы Радзівілаў у Мінску". Экспануюцца унікальныя партрэты XVII-XVIII стст. прадстаўнікоў знакамітага роду беларускіх магнатаў. З 47 партрэтаў дзесяць прадстаўлены шырокай публіцы ўпершыню.

◊ 30-годдзе працы ў тэатры, плённай творчасці з Беларускім балетам адзначыў майстра харэаграфіі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета РБ В. Елізар'еў. Праміналі юбілейныя імпрэзы. А вось напісанае — засталося. У кнігарнях сёння можна сустрэць шыкоўна-прыгожую кнігу выдавецтва "Беларусь". Багата ілюстраваны альбом "Валянцін Елізар'еў. Трыццаць гадоў з Нацыянальным балетам Беларусі" (укладальнік і аўтар тэксту Т. Мушынская) распавядае пра жыццё і асобу, пра тэатральныя прэм'еры і будні, пра творчае асяроддзе і міжнародныя стасункі. Распавядае пра Майстра. У гэтым выданні над пісьмовым словам, пададзеным па-руску, беларуску і англійску, пераважае мова фатаграфіі, што зусім заканамерна і пераканальна. Бо герой аповеду стварае свой мастацкі свет сродкамі сцэнічнага руху, пластыкі цела і жэсту, складанай вобразнасці танца. Наклад выдання — 3 тыс. асобнікаў.






**Конкурс маладых эстрадных выканаўцаў "Белазаўскі акорд" ладзіцца ў Жодзіне трэці год запар. Ён зрабіўся ўжо не толькі неад'емнай часткай галоўнага гарадскога свята — Дня машынабудаўнікоў, але й адмысловай музычнай візітоўкай Жодзіна.**

# Новыя галасы ў «Акордзе»

"Белазаўскі акорд" прыходзіць туды разам з залатой восенню і збірае на спаборніцтва маладых эстрадных спевакоў з розных куткоў Беларусі. Вось і гэтым разам арганізатары атрымалі 62 заяўкі з 27 гарадоў нашай краіны. Пасля руплівага адбору да ўдзелу ў конкурсе было дапушчана 16 чалавек, якія выступалі ў двух турах: у 1-м выконвалі песню беларускіх аўтараў, у 2-м — твор на ўласны выбар.

Працавала аўтарытэтнае журы на чале з вядомым беларускім кампазітарам-песеннікам Валерыем Івановым. Склад канкурсантаў сёлета аказаўся даволі моцным, і было няпроста вызначыць пераможцаў. Фаварыткамі конкурсу сталі дзве таленавітыя дзяўчынкі — Вольга Краўчуковіч са Стоўбцаў і Алеся Дымнікава з Наваполацка, якім было прысуджана адпаведна І і ІІ месцы.

Студэнтка БДУ культуры Вольга Краўчуковіч зрабіла ў Жодзіне сапраўдны фурор. Дастаткова сказаць, што на другі дзень падчас выступлення Вольгі на строга рэгламентаваным канцэрце-закрыцці, пасля таго, як ёй уручылі галоўны прыз — хатні кінатэатр (!), — публіка наладзіла такую авацыю, што выканаўца проста не магла сысці са сцэны і на "біс" праспявала яшчэ адну песню, якая не ўваходзіла ў конкурсную праграму і толькі падкрэсліла прафесіяналізм маладой спявачкі, яе высокую выканальніцкую культуру, прыгожы моцны голас шырокага дыяпазону, уменне раскрыць вобраз песні, змест тэксту. У Вольгі ёсць усе шанцы ўвайсці ў кагорту вядучых эстрадных выканаўцаў краіны. Магчыма, перамога ў "Белазаўскім акордзе-2004" — першы значны крок на гэтым шляху.

Алеся Дымнікава прыемна ўразіла прыгожым голасам (дарэчы, сёлета яна заканчвае Наваполацкае музычнае вучылішча па класе вакала), але ёй не хапіла спанатранага менеджэра, які дапамог бы распрацаваць для яе пэўны стыль у прычосцы і сцэнічным строі. А вось абедзве ўладальніцы 3-й прэміі — Алеся Кульша з Маладзечанскага раёна і Іна Юдко з Магілёва — якраз-такі звярнулі на сябе ўвагу кідкімі касцюмамі і імкненнем тэатралізаваць выступленне, зрабіць з песні маленькае шоу. Усе гэтыя якасці, бліскуча прадэманстравала і яшчэ адна ўдзельніца конкурсу — Дзіяна Лугіна з Баранавіч. Вельмі шкада, што гэтая таленавітая дзяўчынка не трапіла ў лік прызёраў конкурсу, а атрымала толькі спецпрыз "За артыстызм і сцэнічную абаяльнасць". Старшыні журы В. Іванову даспадобы больш прыйшлася сексапільная, але далёка не самая адораная як выканаўца І. Юдко, а не сціплая, але непераймальна шчырая і абаяльная Д. Лугіна. Увогуле, меркаванні В. Іванова ў ацэнках канкурсантаў шмат у чым разыходзіліся з пунктам гледжання большасці членаў журы, сярод якіх былі паэт Уладзімір Карызна, спявачка Аляксандра Кірсанава, прадзюсер і кампазітар Сяргей Ждановіч...

Чарговы конкурс "Белазаўскі акорд-2005" адбудзецца ў Жодзіне роўна праз год. Што станецца за гэты час з пераможцамі сёлетняга спаборніцтва? Ці апынуцца яны ў полі зроку спрактыкаваных прадзюсераў, ці трапяць у папулярныя тэлепраграмы, як адбылося гэта з Дар'яй Урызчанкай, якая на "Белазаўскім акордзе-2003" атрымала 2-ю прэмію, а сёлета "засвяцілася" ў тэлепраекце "Народны артыст"? Ці вернуцца дадому, у глыбінку, не маючы магчымасці ўдасканальвацца, выступаць на прафесійнай сцэне, папаўняць рэпертуар новымі песнямі, як пераможца ўсё таго ж "Белазаўскага акорда-2003" Наталля Нарко з Дзяржынска? Сёлета яна ўдзельнічала ў канцэрце-закрыцці як ганаровая госця і спявала тыя ж 2 песні з леташняга конкурснага рэпертуару. За ўвесь год дзяўчынцы не знайшлося месца ў ніводным з айчынных тэлепраектаў, у ніводнай радыёпраграме.

З іншага боку, член журы С. Ждановіч, прадзюсер моднай цяпер спявачкі Улады, ад імя Аляксандра Ціхановіча запрасіў у папулярную праграму канала СТБ "Хіт-момант" трох канкурсантаў: усё тую ж Іну Юдко, Аляксандру Сярожнікаву з Магілёва і жодзінца Рамана Чупраева, які атрымаў на конкурсе прыз глядацкіх сімпатый. Зразумела ж, прадзюсер мае права на ўласны выбар. Але чаму ў "Хіт-момант" не трапілі непасрэдныя пераможцы конкурсу, для мяне ўсё ж засталося незразумелым.

"Белазаўскі акорд" сёлета займеў уласны гімн, які напісалі бацька і сын Карызны — вядомы паэт і вядомы кампазітар, якія вельмі хваляваліся, слухаючы сваю песню ў выкананні ўсіх удзельнікаў конкурсу. Дарэмна хваляваліся! Песня цалкам атрымалася, — зрэшты, як і ўсё, што датычыць арганізацыі і правядзення гэтай імпрэзы. Прынамсі, яе адзнакай зрабіліся выдатная рэжысура абодвух конкурсных канцэртаў, добрая праца гукарэжысёра, аўтарытэтны склад журы і вельмі салідныя прызы — буйнагабарытныя тэлевізары і каштоўныя падарункі, якімі забяспечыў канкурсантаў завод БелАЗ на чале з яго генеральным дырэктарам, Героем Беларусі Паўлам Марыевым. Дарэчы, і на гэты раз легендарны Павел Марыеў не адмовіўся ад традыцыі ўрачыста адкрыць конкурс і прысутнічаць на спаборніцтве яго ўдзельнікаў. Зноў-такі, добрая традыцыя, якая надае "Белазаўскаму акорду" яшчэ большую саліднасць і ўрачыстасць. Ды нават тое, што пастаяннымі вядучымі жодзінскага конкурсу з'яўляюцца зоркі беларускага тэлебачання Ларыса Грыбалёва і Ягор Хрусталёў, — таксама адметнасць. Тым больш шкада, што беларускія тэлеканалы не занатоўваюць на стужку падзеі конкурсных дзён. "Карцінка", як кажуць тэлевізійшчыкі, атрымалася б надзіва прыгожая — і па тым, што адбываецца на сцэне, і па тым, як цёпла прымае маладых спевакоў перапоўненая зала Палаца культуры БелАЗа.

У ліку падарункаў, якія атрымалі ўсе 16 удзельнікаў конкурсу, аказаліся аператыўна зробленыя кампакт-дыскі з запісамі ўсіх выканаўцаў "Белазаўскага акорда-2004". Ці пачуюць гэтыя запісы слухачы айчынных радыёканалаў? Як хацелася б, каб тыя дыскі не былі ўсяго толькі памятнымі сувенірамі для хатняга карыстання. Бо не для таго ж ладзіцца "Белазаўскі акорд"! Але далейшы лёс канкурсантаў, бадай, не возьмецца прадказаць ніхто. Хаця выступленне ў Жодзіне дае ім шанц заявіць пра сябе, вызначыцца на эстрадным небасхіле, праверыць уласныя магчымасці. І менавіта гэтым карысны конкурс, які зрабіўся ўжо часцінкай гісторыі беларускай эстрады апошніх гадоў.

**Вольга БРЫЛОН**

***НА ЗДЫМКУ:* падчас фестывальнай цырымоніі.**

# Беларусь між Кіпрам і Харватыяй

**Праўда, гэта не факт геаграфіі, а факт біяграфіі: конкурсная.**



Праз "тэлескопы" хатніх экранаў амаль год угля-даліся мы ў "Сузор'е над-зей" — выступленні спаборнікаў другога Нацыянальнага тэле-візійнага конкурсу юных тален-таў. Нядаўна ў Палацы Рэспублікі прайшоў запіс чарговай прагра-мы — ужо з удзелам фіналістаў.

Журы гэтым разам не вы-стаўляла балы-адзнакі, прысутная ў зале дзятва не галасавала розна-каляровымі надзіманымі шары-камі, выбіраючы лепшых спева-коў, танцораў, юных артыстаў размоўнага жанру. А заўсёдныя вядучыя шоу — лаўрэат дзіцячага конкурсу "Еўрабачанне-2003" Вольга Сацюк ды студэнт журфа-ка БДУ Яўген Булка, што высту-паюць тут пад сцэнічнымі псеў-данімамі "Шансі" ды "Хітошка", — знаходзілі прозвішча кожнага наступнага ўдзельніка праграмы не ў пялёстках фантазійных квет-так, а сярод бліскучых цацачных зорачак.

У казачную атмасферу свята, праўда, раз-пораз угортвалася рэ-альнае жыццё, і далёка не раман-тычнымі сваімі праявамі. Побач са мной у партэры ўладкавалася маладая маці з дашкольніцай-да-чушкай. Дык вось, маёй суседцы падалося, што ў дзіцячай імпрэзе нібыта закладзены нейкі таемны інтарэс... дарослага шоу-бізнесу: у бясконцай дэманстрацыі набо-ру непатўорных і не танных сцэнічных строяў юнай Шансі, якой давялося, між іншым, і "па-свяціць жывёцікам", што ўжо даўмелася забараніць, як эксплу-атацыю дзіцячага цела, нібыта свабодная ад пурытанскіх кано-наў Еўропа. На думку маёй су-седкі, быў абраны не самы ўдалы, нейкі стадыённы, варварскі для інтэр'ера залы, дзе адбываюцца традыцыйныя ўрачыстасці, спосаб "гульні з публікай": у якасці раз-радкі дзецям прапаноўвалі кон-курс на самыя гучныя воплескі, але прытым вядучыя заахвочвалі дзікі віскат і гарланне, вымагалі ад гледачоў як мага гучнейшага тупату (асабліва стараліся прапах-лыя тытунём дзецюкі-акселера-ты). А прыкрая недарэчнасць, што азмрочыла выступленне "улюбёнца дзіцячай публікі" К.Слукі, проста "забіла" маю су-размоўцу: спявак ужо наважыўся скакаць пад жвавы найгрыш, як раптам з дынамікаў загучаў не ягоны, а... жаночы голас! Давяло-ся прылюдна прызнаць памылку гукарэжысёра, які пераблытаў фанаграмы, і чакаць, пакуль той знойдзе належны "шосты трэк". І яшчэ маёй выпадковай знаёмай цяжка было даўмецца, якім жа чынам ладкуецца гэты конкурс, калі задоўга да запісу канцэрта фіналістаў ужо быў вызначаны лідэр конкурсу, абраны пазней (у выніку "нашага з вамі" тэлефон-нага галасавання і адзнакі журы) прадстаўніком нашай краіны на дзіцячым конкурсе "Еўрабачан-не-2004".

Пабурчэла мая суседка, пабур-чэла — ды што паробіш... Урэш-це, настроілася "балець". З якой нагоды — зразумела ж: 20 лістапада ў нарвежскім горадзе Лілеха-меры адбудзецца той самы кон-курс, які летась для Беларусі ака-заўся шчаслівым. Як вядома, па-водле рахавання конкурснобу праграму "Еўрабачання-2004" распачне юны выканаўца з Грэ-цыі, а завершыць прадстаўнік Ру-мыніі. Дзесятым па ліку будзе ма-зыранін Ягор Ваўчок з уласнай песняй на вершы Улады Сусленкі "Спявайце са мною!" Перад ім выступіць канкурсант з Кіпра, за Ягорам на сцэну выйдзе прад-стаўнік Харватыі. Вось кампанія якая...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

**Фота К.ДРОБАВА**

# На спатканне... сям'ёй

Спатканні з мастацтвам, асаб-ліва першыя, — гэта ўсё ж такі справа больш інтымная, а не публічная, хаця і адбываюцца яны пераважна ў грамадскіх, людных месцах. У цывілізаваным замежжы тонкае і ўдумлівае далу-чэнне дзіцяці, скажам, да музей-ных мастацкіх каштоўнасцяў ад-бываецца ў зусім раннім узросце, праз даверлівы роздум у цесным коле сям'і або блізкіх. Ды і ў нас, нягледзячы на шматгадовую практыку тлумных школьных "культпаходаў", прыкметна раз-віваецца традыцыя баўлення часу з прыяцелямі, родзічамі ды нават дзелавымі партнёрамі ў цішыні выставачных залаў. Таму самых добрых слоў вартая праца Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, які з нады-ходам кастрычніка наладзіў над-звычай змястоўны, захапляльна-пазнавальны лекторый выхаднога дня.

Лекторый разлічаны, скажам так, на сямейны адпачынак, пе-радусім прызначаецца дзецям і бацькам. Але можа зацікавіць практычна кожнага неабыякавага да мастацтва. Бо хіба ж можа не зацікавіць наведнікаў музея змест афішы? Гляньце, пад якімі руб-рыкамі ладзяцца тут лекцыі, экс-курсіі: "Апавяданні пра музей", "Вандроўкі па старажытным і ся-рэднявечным свеце", "Еўрапей-скае мастацтва эпохі Адраджэн-ня", "Наша спадчына. Мастацтва Беларусі XI-XX стагоддзяў", "Міфы народаў свету ў выяўлен-чым мастацтве" і г.д. Лекторый будзе працаваць да канца мая на-ступнага года. І калі яго рэгуляр-на наведваць, можна будзе на-быць адмысловую адукацыю, паглыбіць і развіць свае веды ў галіне сусветнага выяўленчага мастацтва.

Вось некаторыя тэмы, якія га-товы абмяркоўваць са сваімі глe-дачамі навуковыя супрацоўнікі музея: "Архітэктура і скульптура старажытнай Індыі", "Аблічча і вобразы беларускіх абразоў", "Мастацтва барока ў Беларусі", "Мастацтва Фландрыі", "Імпрэ-сіянізм. Паэзія пейзажа", "Да-даізм", "Сюррэалізм"... Столькі рознай інфармацыі! Ужо ад-быліся гутаркі пра жывапіс і графіку Японіі, пра эпоху Адра-джэння ў мастацтве Нідэрландаў і творчасць Іераніма Босха ды Пітэра Брэйгеля, а таксама пра вобразы Бібліі, прадстаўленыя ў творах пастаяннай экспазіцыі му-зея. 13 лістапада ў цыкле "Замеж-нае мастацтва" была прапанавана тэма "Адраджэнне ў Германіі і Францыі. Творчасць А.Дзюрэра і Л.Кранаха, Ж.Фуке і Ф.Клуэ". А 14-га цікаўных наведнікаў прывяла-ла ў музей заваблівая назва: "Міфы Старажытнай Грэцыі і Рыма".

І як жа без анонса! Дык вось, на 21 лістапада запланавана лек-цыя пра міфы Старажытнага Егіпта, а 28-га — Старажытнай Індыі. На завяршэнне цыкла "Мастацтва краін Усходу" 20 і 21 лістапада рыхтуюцца, адпаведна, лекцыі "Архітэктура і скульптура Старажытнай Індыі" ды "Жы-вапіс Аджанты". 28 лістапада — пачатак цыкла "Выяўленчае мас-тацтва Беларусі", і першай за-моўлена тэма "Рарытэты стара-жытнай Беларусі".

Вядуць лекторый кампетэнт-ныя спецыялісты-мастацтваз-наўцы, навукоўцы М.Шчарба-кова, В.Таланцава, П.Яніцкая, Ю.Мішакова, А.Сянькевіч, Н.Шчукіна, В.Каваленка, Н.Пры-фанава, В.Вайцахоўская, А.Кар-пенка, Н.Калашнік, Н.Высоцкая, А.Шапашнікава ды інш.

Мы будзем перыядычна паве-дамляць пра наступныя сустрэчы ў музейным лекторыі. А за-цікаўленым чытачам рэкамендуем па больш падрабязную інфар-мацыю звяртацца непасрэдна ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

**С.ВЕТКА**



*На карце старажытнай Тураўскай зямлі (гл. "ЛіМ", 3.09. 2004г.) пазначана мястэчка Дубровіца пры рацэ Гарынь. Вось там, на Ровеншчыне, на беларуска-ўкраінскім памежжы і нарадзілася Наталка Пазняк. Яна — зямлячка Сяргея Грахоўскага. З'явілася на свет праз 60 гадоў пасля Сяргея Іванавіча — 13 траўня 1972 года. Скончыла Кіеўскі нацыянальны універсітэт імя Т. Шаўчэнкі. Філолаг паводле адукацыі, захапілася музычнымі фестывалямі. Ад гітары з песнямі на разложыстых шляхах Украіны, дзе гастралявала "Чырвона рута", заіскрыліся радкі вершатворчасці. Паэзію прыходзілася сумяшчаць з тэлевізійнымі аўтарскімі праграмамі, супрацоўніцтвам з перыядычнымі выданнямі. Наталка Пазняк на практыцы засвоіла амаль усе жанры журналістыкі (зараз яна галоўны рэдактар часопіса "Радосинь"). Але... не згубіла дарогу да паэтычнай казкі. Стала лаўрэатам усеўкраінскага конкурсу імя Б. -І. Антоныча. Дасканалае майстэрства набывала ў знакамітым літаратурным аб'яднанні "Радосинь", якім кіруе Дзмітро Чэрыднічэнка (дарэчы, даўні сябар Беларусі). Ён і стаў "хросным бацькам" кнігі лірыкі Наталкі Пазняк "По дорозі до казки".*

*З гэтага зборніка і ўзяты мною для перакладу некалькі вершаў.*

# "А я кожнай зорцы шаптала..."

**Наталка ПАЗНЯК**

## Аўтарскія вершы

* * *

*Мы свечку запалім*
*жарынкай былога жытла*
*І ў небе прыгрэтым*
*заззяе яшчэ адна зорка.*
*І тры каралі*
*дападуць крыжавога свята,*
*І ўсе прычасцяцца віном*
*з поўнай чашы нягоркай.*

*Давай пашукаем*
*палітру сямі галасоў,*
*Дзе росаў сяйня*
*і цнатлівыя гурбаў абліччы.*
*І стане мінулым*
*прысяга сівых каласоў,*
*І прышласцю стануць*
*яшчэ не чытаныя прытчы.*

*Уздымем паходню —*
*няхай азарыцца пагляд.*
*Аслаблы вандроўца*
*спачне на хвілінку ў ясноце.*
*Ноч выплавіць з воску*
*нам жменю бурштынак-зярнят,*
*А нашую зорку*
*і знічкі з нябёсаў не скоцяць.*

* * *

*Прызнала немаўля святло Паэта:*
*Наіўна-шчырым*
*быў той першы зрух.*
*І ажывала ў немаце планета,*
*Адчуўшы дзеяслова зорны круг.*

*Свой біты шлях тварыла Украіна,*
*Развагн казацкі вырваўся з грудзей.*
*І сам Шаўчэнка быў,*
*як мы, наіўны,*
*Каб на маўленне азарыць людзей.*

## На выставе вышыванак "Незалежнае маўчанне"

*Спёка бы ў пекле. Стомлены Кіеў.*
*Звон аж пад неба Сафію падкінуў.*
*Брама на вольніцу. Ціша вячніны,*
*І — паталемна кужэльнай зрабніны.*

*Бель абрусовая, барва-усмешка,*
*Крыжыкам дробным*
*планіды мярэжка.*
*Долю-кашулю святло не пакіне:*
*Лада ільсніцца, зіхціць Берагіня.*

*Сонца ў аконцы, зорачкі ў гронцы —*
*Знак радаводу, шчыт абаронцы.*



*Вышыта праўда, Вечнасці рысы,*
*Нашай дарогі касмічнай абрысы.*

## Львоў

*Самотны Леў стаіўся каля вежы:*
*Хімерам касавокім не раўня.*
*Туман яго атульвае ў начлежцы,*
*Загрывак абдымае цішыня.*

*Парк варухне*
*Падкрылкамі. У вырай*
*Пакоціцца, заплаканы, з гары.*
*Рванецца скрыпка*
*праз рабро вітрыны*
*Асенняе рассыпаць папуры.*

*А віцязі дух кавы каравуляць:*
*На карку кожнага цяжар вякоў.*
*Прастромленая*
*ў лабірынты вуліц,*
*Табой чмурэю,*
*мой залётны Львоў.*

* * *

Ад пажады юрлівай клочча
Ноч для боскай душы — юдоль.
На там-таме тваім:
— Ты хочаш? —
Танцаваў мой самотны боль.

Белым воскам сплывала неба.
Нас агонь да сябе забраў.
За сцяною майго:
— А трэба? —
Днела прорва будзённых спраў.

Ноч гайдалася ў летуценнях.
Мы не верылі крозам тым.
Два маўчанні плылі па цернях,
Не зліваліся — у адным.

*Прадмова і пераклад з украінскай Сяргея ПАНІЗНІКА*

**На здымку: Наталля Пазняк. Фота аўтара.**

# У камеры №142

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.)

*Ты і я на возе*
*Лугавога сена.*
*Вечар па дарозе*
*Пах рамонкі сее,*
*Сцелецца туман,*
*І цвіце курган,*
*Кветкай сосен вышняй,*
*У воблачкі прыбран.*
*Знемаглася, спіш ты?*
*Стужкаю ружовай*
*Ноч зара вітае,*
*З кожным паляваннем*
*Косы расплятае.*
*Грушы ціхі сум,*
*Сведка даўніх дум,*
*Сэрцу б'еццa весткай*
*Аб сірочым дню.*

Косця ўважліва слухаў, намагаючыся ўявіць сабе тое, пра што гаварылі радкі верша. Голас паэта гучаў ціха, амаль шэптам, але вельмі душэўна, шчыра.

— Ну, як? — спытаў, скончыўшы чытанне. — Што скажаш? Пакрытыкуй!

— Здорава! Гэтак прыгожа ўсё апісана: і воз, і сена, і вечар! Бачыш усё, як бы і на самай справе, як бы ты і сам на гэтым возе. Добра!

— А ці бярэ за сэрца?

— Бярэ.

Аўтар быў усцешаны:

— Ну, не перахвалі, а то яшчэ і заганарусся. Паэты, браце, вялікія ганарліўцы. Я, каб ты ведаў, як паэтам незадаволены сабой. Незадаволенасць — гэта, запомні, добрая рыса. Геніяльныя людзі заўсёды незадаволеныя.

— Не, напісана добра! — Косця крыху памаўчаў, а потым, зірнуўшы на паэта, сказаў: — Але ж яны на тым возе, пэўна, і прыцiскаліся, дурэлі, можа, ён яе і мацаў, за грудзі браў, а пра гэта ні слова? Хаця б у шчаку цмокнуў!

— Э-э, чаго захацеў! Каб у шчаку цмокнуў? А можа, хлопец той, што на возе, — рэвалюцыянер, ці наш брат падпольшчык? Не паложана! Ты падумаў пра гэта? Не дзеўчына яму павінна быць у галаве, а, сам разумееш, нешта іншае. Перш за ўсё — дзела!

— Ну, хіба што так. А верш добры!

— Дык я, браце, каб ты ведаў, ужо карыстаюся гэтым новым метадам для пралетарскіх паэтаў — сацыялістычным рэалізмам. Дапамагае. Бачанне дае. Перспектыву!

— Я ў гэтым не надта, — прызнаўся Косця, — хіба што слова нейкае прыпомніць магу ці рыфмай дапамагчы, каб у лад трапляла.

— Ты халасты?

—Халасты.

— Тут ёсць дзеўкі.

Косця не адразу зразумеў, што мае на ўвазе яго новы таварыш, куды хіліць.

— Якія дзеўкі?

— Сядзяць, з нашых.

— З нашых?

— Ну, так.

— Маладыя?

— Ёсць і маладыя.

— Цікава.

— Камсамолкі.

— Камсамолкі?

— На шпацыры можна пазнаёміцца.

— Ну то пабачым.

— Пабачыш. Праўда, Розы паміж імі няма, але дзяўчаты сімпатычныя.

— Якой Розы? — не зразумеў Косця.

— Розы Люксембург, спартакаўкі. Калісьці яна казала, што мусіць памерці на сваім пасту — на вуліцы або ў турме. Так, дарэчы, і здарылася. Прыгожая, кажуць, была, але і нашы не з горшых. Убачыш!

Гаворачы пра дзяўчат, Піліп успомніў сваю знаёмую, з якой перамаўляўся позіркамі ў час прагулкі ў турэмным дворыку. Мілавідная такая, пагляданая, сярэдняга расточку, з чорнымі хвалістымі валасамі. Памяркоўная, відаць, з характару. Спачатку, сустракаючыся з яго позіркам, чырванела, а цяпер перастала, асвойтася, круціць галавой, шукаючы яго, і нават пасміхаецца. Баяўся, каб усур'ёз не захахацца. Сорамна будзе перад таварышамі...

Косця ўстаў са свайго зэдліка, прайшоўся туды-сюды па камеры. Зірнуў у акенца, за якім панаваў ужо змрок. Пацiху, незаўважна насунуўся вечар. Яшчэ больш захацелася есці. На вячэру далі кавалачак селядца, бульбіну і кубачак несалодкай кавы. Піліп падзяліўся сухаром, які прыбярог, трымаючы яго пад алюмініевай міскай. Сухар аказаўся вельмі прыдатны да кавы. Павячэраўшы, яны адначасова, адзін і другі, адчулі, што нехта за імі сочыць.

Гэта праз "вока Іуды" зазірнуў той самы наглядчык з напучанымі вачыма. Бразнуў замок, дзверы адчыніліся, і наглядчык увайшоў у камеру, моўчкі адамкнуў прымацаваныя да сцяны жалезныя ложкі з набітымі перацярушанай саломай матрацамі і такімі ж падушкамі, паверх якіх ляжалі складзеныя ў некалькі столак коўдры. Не чакаючы пакуль вязні ўпарадкуюць пасцелі, наглядчык таксама моўчкі пакінуў камеру. Чутно было, як ён пстрыкнуў электрычным выключальнікам, і ў камеры стала цёмна. Вязні зразумелі, што вечаровага шпацыру не будзе. З сумам пагледзелі на маленькае закратаванае акенца, што віднелася амаль пры самай столі. Разабраўшыся з пасцелямі і зняўшы верхнюю вопратку, яны моўчкі паселі на ложкі — кожны на свой.

— Цікава, як там у Іспаніі зараз? — як бы самому сабе задаў пытанне Піліп. — Ця-я-жка, мусіць...

— Мадрыд стаіць, як скала.

— Я ведаю.

— Фалангістам[1] капіталісты спрыяюць. Каб не яны, дык ужо даўно б перамаглі, а так... — Косця зрабіў паўзу. — Цяпер нашых там шмат. Эх, паехаць бы туды!

— Іспанцам трэба дапамагчы. Першы сноп — ім.

— Дапамагаюць, асабліва моладзь. Грошы збіраюць...

— Малайцы! За гэта хвалю.

— Барацьба ідзе па ўсім свеце.

— Па ўсім свеце, — згадзіўся Піліп. — Мяне дужа той пакт непакоіць: Германія, Італія ды яшчэ Японія — гэта ж, каб ты ведаў, супраць нас.

— Вядома.

У турме паступова ўсталёўвалася начная цішыня, якую зрэдзь парушалі аддаленыя гукі: прыглушаныя сценамі стогны, ускрыкі, ацiхлыя крокі калідорных наглядчыкаў, рып дзвярэй, мяккі бразгат жалезза.

— Давай, браце, на сон спяём! — нечакана прапанаваў Піліп. — Толькі ціхацiха, каб гэтыя злыдні не пачулі, а то пачуюць, дык непрыемнасцей не абярэшся. — І першы пачаў:

*Нас не сломит нужда,*
*Не согнёт нас беда.*
*Рок всесильный не властен над на-ами...*

Ціхія словы скрабанулі па сэрцы, і яно забілася ямчэй, як бы напаўнялася новай сілай, і Косця падхапіў знаёмую мелодыю:

*Никогда — никогда,*
*Никогда — никогда*
*Коммунары не будут рабами-и!*

Песня выспеўвалася нягучна, прыглушаным рэчытатывам, амаль шэптам, аднымі толькі вуснамі, але ад гэтага не толькі нічога не траціла ў сваім сэнсе, а як бы нават нешта набывала — упартасці і непахіснасці.

— Люблю гэтую песню, — прызнаўся Піліп, калі яны скончылі, — у ёй — самае галоўнае. Эх, браце!..

— У ёй вялікі сэнс, — адгукнуўся Косця, — шкада, што народ яе не ведае...

Піліп аднак не падтрымаў далейшай гамонкі — не хацеў, мусіць, парушаць звыклы турэмны рэжым ці, можа, залішне стаміўся і хіліла на сон.

— Спаць, спаць! — як бы загадаў ён сабе і заадно свайму суразмоўцу. І апошняе, што ён прамовіў, ужо лёгшы на ложак і нацягнуўшы да падбародзя турэмную коўдру, — было іх прывычнае:

— Ну, на акупанта!

— На акупанта! — адказаў Косця, таксама нацягнуўшы на сябе коўдру, і яны змоўклі. Кожны заглыбіўся ў свае думкі.

З Піліпам Пестракам аднак хутка давялося расстацца — яго перавялі ў Гродзенскую турму, а Косця тым часам застаўся ў Лукішках. "Сустрэнемся на барыкадах!" — ціха сказаў Піліп на развітанне.

[1] Фалангісты — так у Заходняй Беларусі называлі прыхільнікаў Франка.

---

**Першыя дзіцячыя бібліятэкі на тэрыторыі Беларусі пачалі ствараца ў 1934 годзе як цэнтры культуры і самаадукацыі маленькіх чытачоў. Сёння амаль кожны раён сталіцы мае дзіцячую бібліятэку, куды хлопчыкі і дзяўчынкі прыходзяць не толькі падрыхтавацца да школьных заняткаў, але і пачытаць што-небудзь цікавае, для душы.**

# Адчуць неверагодную прыгажосць слова



У адну з такіх устаноў я і адправілася, каб высветліць, якую ролю адыгрывае сёння беларуская кніга ў жыцці дзяцей.

Пераступіўшы парог дзіцячай бібліятэкі № 2 г. Мінска, я нібыта апынулася ў іншым свеце: светлым, утульным, прыгожым. У зале мяне сустрэла загадчыца бібліятэкі Раіса Шпакоўская. "Два гады таму зрабілі капітальны рамонт. Сучасныя ўмовы працы становіча ўплываюць як на супрацоўнікаў, так і на чытачоў. Існуе электронная база дадзеных, якая дазваляе хутка задаволіць патрабаванні наведвальнікаў", — паведаміла яна.

Адзначу, што на 1 студзеня 2004 года фонд бібліятэкі складаў 62 тысячы 684 экземпляры, з якіх 11 тысяч 828 — на беларускай мове. "Можа, гэта і недастатковая колькасць выданняў, — прызнаецца Раіса Іванаўна. — Аднак жа дзеці часцей за ўсё чытаюць кнігі, прадугледжаныя школьнай праграмай. Што тычыцца асабістага інтарэсу чытачоў да беларускай мовы і літаратуры, такіх, на жаль, не шмат". Разам з тым, паводле яе слоў, сярод аўтараў, якія карыстаюцца сёння найбольшай папулярнасцю, можна назваць Уладзіміра Арлова, Івана Шамякіна, Івана Мележа, Якуба Коласа. А вось дзецям пачатковай школы вельмі падабаецца Уладзімір Ягоўдзік. Дарэчы, з ім дзіцячая бібліятэка № 2 падтрымлівае трывалыя сувязі.

Акрамя таго, адным з напрамкаў дзейнасці бібліятэкі з'яўляецца краязнаўчая праца з беларускай мовай і літаратурай. "Гэта было прыярытэтам нашай установы на працягу доўгіх гадоў. Сёння мы працягваем добрыя традыцыі. Ладзім шмат творчых сустрэч з пісьменнікамі, цікавымі людзьмі нашага раёна і горада, а таксама з творчымі калектывамі часопісаў "Бярозка" і "Вясёлка". Мерапрыемствы праводзяцца на беларускай мове, упэўнена, што пры такіх сустрэчах дзеці найярчэй адчуваюць неверагодную прыгажосць роднага слова", — падкрэсліла Раіса Шпакоўская. А на такіх творчых сустрэчах і прэзентацыях твораў чытачы маюць магчымасць набыць кніжку з аўтографам пісьменніка.

Зацікаўленасць роднай мовы назіраецца не толькі сярод чытачоў бібліятэкі, якія аддаюць перавагу беларускай перыёдыцы, менавіта часопісам "Бярозка", "Вясёлка", "Роднае слова", "Родная прырода", але і сярод супрацоўнікаў. Яны з вялікім задавальненнем чытаюць "Полымя", "Маладосць", "Літаратуру і мастацтва", "Звязду".

Між тым, сярод наведвальнікаў бібліятэкі можна пабачыць дзяцей, якія размаўляюць паміж сабой на беларускай мове. "Праўда, іх не шмат, — прызнаецца Раіса Іванаўна. — Гэта пераважна хлопчыкі і дзяўчынкі, якія вывучаюць мову з першага класа і карыстаюцца ёй у паўсядзённым жыцці. Таму, калі чытач звяртаецца да нас на беларускай мове, мы з задавальненнем адказваем на яго пытанні па-беларуску. Шчыра кажучы, мне вельмі прыемна чуць матчыну мову ў сценах бібліятэкі". Раіса Шпакоўская перакананая, што яшчэ прыйдзе той час, калі беларуская мова стане адзінай для Беларусі, паколькі людзі, якія любяць свой кут і сваю Айчыну, павінны любіць і сваю мову, вольна на ёй размаўляць.

**М. ЦЯРЭШЧАНКА**

***На здымку: госці бібліятэкі № 2, пісьменнікі А. Наварыч і У. Ягоўдзік.***

# Шчодрая вавёрка

## Казка

Выглянула вавёрка з гнязда і бачыць: густы морак за сіні ельнік скаціўся, віднецца пачало. "Гэта ж ранняя птушка, кажуць, дзюбку працірае, а позняя — вочы прадзірае", — успомніла вавёрка і на палянку пабегла.

А на палянцы сунічак, салодкіх і духмяных, еш — хоць расперажыся. Паласавалася вавёрка ягадамі і пачала іх у збаночак збіраць. Ягадка да ягадкі — і поўны збаночак.

Усё лета старалася вавёрка. Бо ведала, што летам прызапасіш — зімой як знойдзеш. Акрамя сунічак, малін набірала, ажын. Каля азерца на густыя кусты шыпшыны натрапіла — і яе не прамінула.

Восенню баравікоў насушыла. Пра арэхі і жалуды таксама не забылася. Ажно ў чатырох дуплах схавала свае запасы вавёрка.

А хутка і зіма прыйшла. Студзень зямлю студзіць, рана лясных жыхароў будзіць. Прачнулася і вавёрка. Вылезла з гнязда і да дупла заспяшалася, у якім яе сунічкі ляжалі. Скача з галінкі на галінку, ажно раптам сінічку бачыць. Сядзіць тая на паваленай ветрам асіне і плача. А над палянкаю, ад крыку заходзячыся, сойка з арэхаўкай кружаць.

Вавёрка скокнула ўніз і ў адзін міг каля сінічкі апынулася.

— Сястрыца, скажы, чаго ты плачаш? — спытала ў яе.

— Як тут не плакаць, вавёрка. Дзікі маю схованку з насеннем адшукалі. Сойцы з арэхаўкай таксама ніводнага жалуда не пакінулі. Адзін белы снег кругом, але ж яго не ўкусіш.

І зноў пакаціліся з вачэй птушкі горкія слёзы.

— Не бядуйце. Што Бог паслаў, тым і пачастую вас. Усім хопіць, — сказала вавёрка і тут жа паклікала сойку з арэхаўкай.

Нічога не шкадавала вавёрка для гасцей. І сунічкамі іх частавала, і малінамі з ажынамі. І шыпшынаю, і сушанымі баравікамі, і арэхамі з жалудамі.

Неўзабаве ўзнялася завіруха. Ноч на зямлю апусцілася. Вядома ж: зімовы дзянёк, што камароў насок. А сінічка, сойка і арэхаўка і не думаюць дамоў спяшацца. Сытна ім у вавёркі, весела.

Але на Мацея, калі зіма пацее, скончыліся ў вавёркі сунічкі.

На саракі, калі пайшла зіма да ракі, скончыліся ў яе маліны.

А на Рыгора, калі зіма пайшла ў мора, скончыліся ажыны з шыпшынаю.

На Святога Прыска, калі прабіла лёд хвастом пліска, не стала сушаных баравікоў.

А калі Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху — і арэхі з жалудамі скончыліся.

Але гэта ўжо была не бяда. З Вялікадня птушкі пачалі пець, першы раз зязюлька закувала.

Тым часам і май наступіў. А, як кажуць: май — і пад кустом рай.

Так і перажылі зіму, дзякуючы шчодрай вавёрцы, сінічка, сойка і арэхаўка.

Янка ГАЛУБОВІЧ



Колькі геаметрычных фігур ты бачыш на гэтым малюнку?

Міхась ПАЗНЯКОЎ

### Скарагаворка

*Раніцою золкай*
*Цецярук з цяцёркай*
*Прывялі ў дзіцячы сад*
*Чатырох цецеранят.*

### Шарада

*Сёмы гук*
*музычнай гамы*
*Называе першы*
*склад.*
*Два наступныя*
*таксама*
*Падказаць я вельмі рад:*
*Горад Францыі*
*паўднёвай*
*Вам падкажа*
*гэта слова.*
*Ну, а разам іх з'яднаем —*
*Нашу птушку атрымаем.*

*(Сініца)*

### Загадка-задачка

*Віця добры ў нас рыбак,*
*У вядры ў яго: шчупак,*
*Два яршы, чатыры плоткі,*
*Два ўюны, вялікіх, вёрткіх.*
*Восем тлустых печкуроў,*
*Шэсць пярэстых акунёў.*
*Два самы і тры язі,*
*Тры ліні, два карасі.*
*Адкажы мне, у яго*
*Колькі рыбін усяго?*

Лёля БАГДАНОВІЧ



### Бусел мерае балота

*У чырвоных доўгіх ботах*
*Бусел мерае балота.*
*Сціхлі ўмомант да адной*
*Жабы лупавокія.*
*Толькі ветрык над вадой*
*Шамаціць асокаю.*

### Дзіўны сон

*Маленькі Вольчын парасон*
*Сягоння бачыў дзіўны сон:*
*Ён парашуцікам зрабіўся.*
*Ваўчком між зорачак*
*круціўся.*
*Расплюшчыў вочкі парасон*
*Ды горка плача:*
*"Гэта ж сон"...*

### Вясёлыя скокі

*Козачка Зорка пусцілася*
*ў скокі.*
*Побач з ёй Волечка,*
*ўзяўшыся ў бокі.*
*Слёзы ад смеху*
*ў старэнькай бабулі —*
*Дзеці ёсць дзеці.*
*Адны ў іх гулі.*

Валянцін ЛУКША

### Конь-агонь

*Трапіўся мне*
*ў лесе конь*
*Ён сапраўдны*
*Конь-агонь.*
*Конь нясе мяне*
*Старанна*
*Роснай сцежкай*
*На паляну.*
*Пераскокваю мурашнік*
*І зусім-зусім*
*не страшна.*
*Пераскокваю ручай —*
*Паспрабуй мяне*
*Стрымай.*
*Урэшце прыімчаў*
*на дачу*
*Конь надзейны,*
*Конь гарачы*
*Пот з ілба*
*схінуў салёны:*
*— Дзе з вадою*
*гляк бяздонны?..*
*Смаката,*
*Аж ломіць зубы.*
*Дзякую бабулі любай.*
*А бабуля у адказ:*
*— За канько́м*
*прыглядзець час,*
*Бо і заўтра*
*Ранкам ветлым*
*Паімчыш на ім,*
*Як вецер...*
*Кій паставіў*
*У куток:*
*— Добрай ночы,*
*Мой канёк!..*

Серафіма БЕСТАВА

### Коцік

*Павячэраў сёння коцік,*
*Усяго і не злічыць.*
*Толькі б не балеў*
*жывоцік*
*У каточка ўначы.*
*Кашу ей*
*і ей каўбаску,*
*І ей рыбку "Івасі".*
*Ён наеўся*
*пад завязку*
*І смятанкай закусіў.*
*Апетытна ей і смачна,*
*У смятанцы шчэ раток.*
*Сёння мышкі*
*хай паскачуць,*
*Ён не гляне ў іхні бок!*

Мікола ЛІСОЎСКІ

### Кенгуру

*Паштальён,*
*удзячны лёсу,*
*з вёскі ў вёску,*
*з вёскі ў вёску,*
*з хаты ў хату,*
*з хаты ў хату*
*нашай цётцы або тату*
*носіць пісьмы,*
*носіць грошы,*
*носіць шмат яшчэ чаго —*
*надта ж любім мы яго.*
*Ён ідзе з нялёгкай ношай —*
*То з гары,*
*то пад гару:*
*процьма — пісем,*
*ёсць і — грошы...*
*Мы ад зайздрасці харошай*
*кпім:*
*— Дабрыдзень,*
*кенгуру!*

Генадзь АЎЛАСЕНКА

### Калыханка

*Карасі паснулі ў ціне,*
*Павукі на павуціне,*
*Птушкі ў гнёздах,*
*Мышкі ў норках,*
*А сабакі*
*на падворках...*
*Спяць каты*
*на цёплых печках,*
*Спіць туман*
*над соннай рэчкай,*
*А за рэчкай*
*спіць узлесак,*
*А за ўзлескам —*
*пералесак...*
*Спіць лагчына...*
*Спіць балота...*
*Над зямлёй*
*стаіць дрымота...*
*Зверху*
*месяц пазірае*
*І дрымоту*
*калыхае*
*І люляе:*
*"Люлі-люлі",*
*І глядзіць*
*ці ўсе паснулі...*

*Вось і ты*
*заплюшчы вочы.*
*Добрай ночы!*
*Добрай ночы!*




Рэбус Івана БОКІЯ

Хто пытае, той многа знае.

Малюнкі А. ПАТАПЕНКІ



***Яго называюць эпатажным, чалавекам, які наўмысна выклікае да сябе інтарэс праз сваркі. А яшчэ — чалавекам, які не мяняе сваіх думак. І таму можна смела лічыць, што ягоныя выказванні маюць адценне калі не вечнасці, дык працягласці ў часе... Зрэшты, думкі, выказаныя ім пару-тройку год таму такія ж свежыя, нібыта прамоўлены толькі ўчора. Гэта сведчанне не абмежаванасці, а толькі развақлівых высноў, настоеных на... з'едлівасці. Ну такі ён ад прыроды. А мо такі ад... прафесіі? Знаёмлю: кампазітар Эдуард Ханок.***

# *Летапісец эстрады і вынаходнік «тэорыі хвалі»*

## Горкія лекі ў салодкай абалонцы

**— Эдуард Сямёнавіч, вы сталіся вядомым — толькі не крыўдуйце, калі ласка, — не столькі сваімі песнямі, колькі кнігамі «Пу-га-чоў-шчы-на» і «Кру-ціз-на», дзе падрабязна разглядаеце «тэорыю хвалі» на эстрадзе, паклаўшы, між іншым, самую магутную на постсавецкай прасторы — расійскую поп-эстраду на лапаткі...**

— Першая кніга зроблена па прынцыпе пігулкі: горкія лекі ў салодкай абалонцы. Дрэнь, затое карысна. Так, я адкрыў «тэорыю хвалі», г. зн. тэорыю прафесіі; упершыню даў вызначэнне, што такое талент. Упэўнены, ніхто з чытачоў не кіне папрок, што я займаюся не сваёй справай, таму што я маю вышэйшую тэарэтычна-кампазітарскую адукацыю. Скончыў Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі і Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю імя Чайкоўскага. Сам аўтар дзесятка папулярных песень, ведаю ўсю, як кажуць, паднаготную эстрады. А яшчэ — пашчасціла супрацоўнічаць з самой Алай Барысаўнай Пугачовай. Яна — найвышэйшая кропка адліку савецкай эстрады. Што, дарэчы, дае мне права, расшыфраваўшы гэтую кропку, казаць пра ўвесь працэс, які адбываецца там. Таму, як бачыце, няма нічога дзіўнага, што я пішу свайго роду летапіс савецкай эстрады і расійскага шоў-бізнесу.

**— Аднак, гаворачы пра прыму савецкай эстрады, вы то нахвальваеце яе, то ганіце. Часта даводзіцца прабачэння прасіць?**

— Паверце мне: проста харошых людзей не бывае! Мы ўсе па сутнасці аднолькавыя, робім то добрыя, то кепскія ўчынкі... Паўтаруся: Ала Барысаўна — спявачка, якая... не адбылася. Яе драма ў тым, што яна з-за таго, што пражывала менавіта ў *такой* краіне, сталася вядомый усяго толькі як правінцыйная спявачка. Яна не магла выйсці на міжнародную сцэну. Гэта як у футболе: ёсць сусветны спорт, а ёсць мясцовы. Дарэчы, любы беларускі выканаўца, якому нават пашчасціць выступіць у канцэрте з Алай Барысаўнай, застанецца правінцыйным. Усе нашы зоркі — а-ні-што! Сёння, калі любы чалавек, любы рабочы, студэнт ці то хатняя гаспадыня слухаюць MTV і ведаюць самых сучасных, самых-самых модных спевакоў з розных куткоў свету, і нашы зоркі нікому не патрэбны. Дарэчы, беларускія выканаўцы па ўзроўні матэрыяльнага жыцця адрозніваюцца ад расійскіх так жа сама, як расійскія ад сваіх замежных калег. Так што, калі б Ала Барысаўна нарадзілася сёння, яна б магла зрабіцца сусветнай знакамітасцю.

Дарэчы, заходнія зоркі жывуць ад продажу кружэлак, дыскаў, а не ад канцэртных тураў. Тады як для нашых галоўнае — «чос». Чаму той жа Шуфуцінскі не жыве ў сваёй сям'і ў Амерыцы? Ды таму што там ён будзе бедны і голы. А тут ён можа «часаць» на дурніцу з раніцы да вечара сталіцы і рэгіёны. І так робіць большасць...

**— Неяк вы сказалі, што сіла на эстрадзе ў таго, у каго «свая песня».**

— Любы выканаўца пачынаецца са шлягера. І гэта пры тым, што шлягерам могуць быць «Широка страна моя родная", «Касіў Ясь канюшыну» і нават гімн краіны... У мяне часта пытаюцца: чаму мы, суграмадзяне, не спяваем так, як раней — усе разам — вольна і шырока нашы любімыя песні? І не будзем спяваць, і не трэба! Раней у нас была адна ідэалогія і адны шлягеры на ўсіх, на розныя пакаленні. Няможна блытаць савецкія песні і шоў-бізнес. Калі раней выпускалася абмежаваная колькасць песень на ўсіх, дык зараз — неабмежаваная колькасць. Адсеюцца толькі тыя, якія незапатрабаваныя...

Праўда, пры гэтым узнікае праблема іншага плану: шмат гучыць лухты і пошласці. Мы сёння праходзім той каранцінны перыяд, калі прывучваемся самі адкідаць непатрэбнае. Як толькі шырокай публіцы стануць непатрэбны Майсееў і Шура, ніхто на іх хадзіць не будзе. Мяркую, што той перыяд, калі зорак ляпілі выключна за грошы, праходзіць.

## Праз каханне — да разумення

**— Мяркуючы па справах, вашы памкненні сягаюць шырока і далёка. Вы вырашылі скарыць творчую Маскву і... былі прынятыя не толькі ў шчыльныя колы шоу-бізнесу, але і ў Расійскую акадэмію музыкі, узяліся за напісанне дысертацыі, за друкаванне артыкулаў у «АіФ»... Называеце сябе то кампазітарам, то журналістам, то пісьменнікам.**

— Я насамрэч не кампазітар у чыстым выглядзе, я шматгранны. Раней мяне выбівала з каляіны, што мала песень пішу. Зараз — не. Колькі вакол цікавага, варта толькі азірнуцца!

— Беларусы цудоўна ведаюць, што вы — аўтар знакамітых у 80-90-я гады хітоў. Спачатку "Потолок ледяной" (канец 60-х), затым — "Разговоры, разговоры" (пачатак 70-х). Аднак жа гісторыя іх з'яўлення, вой, якая цікавая! Гэтыя дзве самыя вядомыя песні з'явіліся пасля... сварак з жонкай. Вы такі ранімы?

— ...вы і гэта ведаеце... Тады ўдакладню: я сыходзіў ад жонкі аж тры разы, і так на працягу двух-трох гадоў нашага сумеснага жыцця. Ну а калі пасля апошняга разу зразумеў, што нікуды і ні да каго я не сыду, заняўся творчасцю. Так, можа, ад горкага суму і з'явіўся «Потолок ледяной». Што тычыцца другога шлягера, дык тут яшчэ цікавей. Неяк вярнуўся я вельмі запозна, а жонка прыбірала, падлогу мыла. І... мяне той анучай мокрай і... карацей, вы разумееце. Ну а раніцай такі настрой брыдкі, крыўдна, галава баліць... А тут яшчэ на пюпітры словы ляжалі, я й заспяваў: "Разговоры да разговоры, слово к слову тянется...".

**— Самі неяк прызналіся, што заўжды паглядалі на жанчын. А ад сваёй — нікуды! Як жа ёй удаецца ўтрымліваць вас, што гэта за талент такі?**

— Таму што мы абое зразумелі, што каханне — гэта ўспышка, якая прыводзіць да нараджэння сям'і. А далей ужо баль правіць не каханне, а разуменне. Мы і зараз, бывае, спрачаемся, але я першы прыйду на замірэнне. Канечне, успышкі кахання ці сімпатыі бываюць і пры наяўнасці сям'і. Але з гадамі разумееш, што па вялікім рахунку ты ў гэтым жыцці нікому не патрэбны, акрамя той, якую сам выбраў даўно-даўно (ці то яна выбрала?!), з кім жывеш доўгія гады.

**— Ваша стаўленне да жанчын на эстрадзе?**

— Давядзецца раскрыць сакрэт: эстрадных выканаўцаў жаночага полу я... не ўспрымаю як жанчын. Іх сцэнічны вобраз, вядомасць — як покрыва, за якім не відно, што яны жанчыны.

## Дайсці да самацэнзуры

**— Вы часта засядаеце ў журы розных музычных конкурсаў. Аднак пры гэтым лічыце конкурсы анахранізмам, маўляў, ніякіх зорак конкурсы не робяць...**

— А хіба не? Якія гэта зоркі першай велічыні ўзляцелі пасля шматлікіх «Славянскіх базараў»? Ды гэта ўрачыстае шэсце расійскай «папсы» на беларускай эстрадзе. На тыя грошы, якія плацяцца Пугачовай і кампаніі, магла жыць айчынная эстрада.

— Аднак, галоўная мэта айчыннага фестывалю «Славянскі базар» — узаемапранікненне культур, а не стварэнне зорак. І ўсё-ткі: ці зможа калі-небудзь наша эстрада стаць канкурэнтаздольнай?

— Пакуль пра тое не можа быць і размовы. За бясплатна ніхто не раскруціцца. І не варта глядзець на далёкае мінулае, калі савецкія выканаўцы нібыта прарываліся толькі дзякуючы свайму таленту. Нічога падобнага! У якасці лікбезу: раней дзяржава ўкладала сродкі ў тэлебачанне, якое паказвала выканаўцу бясплатна. Дзяржава «раскручвала» і мела за тое вялікі прыбытак ад канцэртнай дзейнасці і продажу касет, тады як выканаўца атрымліваў капейкі. І пры тым, што, да прыкладу, такі талент, як Ляонцьеў, мог проста не спадабацца якому-небудзь чыноўніку ад культуры, і — усё, шлях на экран закрыты, карьера скончылася... А зараз грошы ўкладае прадзюсер. Вось і ўся розніца.

**— Эстрада — гэта адны эмоцыі і хуткаплыннасць. Думаю, вы марыце пра той час, калі на эстрадзе адбудуцца незваротныя працэсы, якія прыдадуць гэтаму жанру своеасаблівае класічнае адценне. Як на ваш погляд, што будзе цікавіць слухачоў у недалёкай будучыні?**

— Не думайце, што кепская эстрада сыдзе і яе месца зойме добрая. На эстрадзе, як і ў літаратуры, заўжды былі і будуць добры, сярэдні і кепскі прафесіяналы. Толькі час расстаўляе ўсё на свае месцы, — калі песні, якія не кранаюць душу, застаюцца ў мінулым і ніхто іх не ўзгадвае. Жыццё ідзе па сваіх законах.

Аднойчы прыйшло разуменне, што эстрада — гэта прафесія часовых людзей. Гэта тое ж самае, што ў спорце ці балеце. Розніца толькі ў тым, што на эстраду можна прыйсці і ў 12, і ў 20, і ў 40 гадоў. Але час прысутнасці на ёй абмежаваны... А як жа, папытаеце, «старыя» зоркі, тая ж Пугачова? Дык яна па-майстэрску пераніцоўвае сваю былую творчасць і трымаецца на гэтым нафталіне. Імідж стаў прафесіяй прымадонны з канца 80-х, калі ў яе настаў творчы крызіс. Аднак яна — выключэнне з правіл. А правіла такое: як толькі настаў крызіс, шукай іншую прафесію. Да прыкладу, у Андрэя Макарэвіча зараз прафесія «Смак» — і ўсё!

Думаю, што сапраўдная эстрада яшчэ толькі пачынаецца. Аднак мы ўсе павінны перажыць перыяд станаўлення. Зірніце: Амерыка ў параўнанні з намі... кансерватыўная краіна. Па нашым тэлебачанні ідуць самыя разнастайныя «брудныя» праграмы: «Вокны», «Вялікі куш», «Вялікая сціркa», «Крымінальнае расследаванне», іншыя. Варта толькі дачакацца, калі яны нам будуць не цікавыя, не патрэбныя і мы перастанем іх глядзець. Тут так: альбо мы «загнёмся» ад гэтага бруду, альбо дойдзем да самацэнзуры і выжывем. Тое ж самае і на эстрадзе.

**Вольга МЕШЧАРАКОВА**

# Почырк — як душа, ён фіксуе ўнутраны стан

## Чым не сюжэт...

**Аказваецца, ёсць спецыялісты, якія лёгка "раскладуць" ваш характар на асобныя складаючыя, варта яму толькі зірнуць на тое, як вы пішаце... Не-не, спадары пісьменнікі, не пра што пішаце, а якім почаркам, калі вы, канечне, не абхітрылі саміх сябе і не пераселі за камп'ютэр... І не ў фантастыцы тут справа. Падобным чынам ледзь не штодня "эксперыментуюць" судовыя эксперты. Таму, калі ў размове са спецыялістам яшчэ можна прыхаваць настрой і стан душы, дык ад графолага падобнае не прыхаваеш, ён адразу ж здолее даўмецца што да чаго.**

Зрэшты, для чаго патрэбны падобныя спецыялісты?

Па-першае, графолагі займаюцца ідэнтыфікацыяй подпісу, але не толькі гэтым, а і больш значнымі справамі. Часам здараецца, што ад думкі эксперта залежыць нечы лёс. А таму дыягностыка можа пацвердзіць ці абвергнуць факт пэўнай незвычайнасці, характэрнай ці не для асобнага чалавека, які пісаў нейкі тэкст. Да прыкладу, быў такі выпадак, калі муж, каб пазбавіцца ад жонкі, павесіў яе. Аднак перад тым прымусіў напісаць развітальную цыдулку, у якой тая просіць прабачыць яе за падобны крок. Маўляў, яна так перажывае за здраду каханага супруга, што больш не можа жыць з такім каменем на сэрцы. "Прабач, прабач, прабач!" — горача развітвалася яна са светам і мужчынам, з якім пражыла колькі год... Адбыўся суд; жанчыну пахавалі. Здавалася б, усё, можна ўздыхнуць з палёгкай... Аднак родзічы памерлай, звярнуўшыся да адваката, настойвалі на тым, што жанчына ніколі б у жыцці не напісала падобнае без прымусу. Прызначылі новае расследаванне, падчас якога павінны былі атрымаць адказ на пытанне: хто аўтар тэксту? Пасля адпаведнай працы над почыркам і стылем эксперты робяць выснову: тэкст належыць мужу памерлай. З-за неабвержных доказаў той прызнаецца. (Чым, пытаюся, не сюжэт для дэтэктыва, а, калегі-пісьменнікі? Бачыце, часам падобныя знаёмствы вельмі карысныя...)

Аказваецца, спецыялістаў "вышэйшай пробы" ў нас няшмат, набярэцца, як кажуць, на пальцах дзвюх рук. Ці не палова з іх працуюць у Навукова-даследчым інстытуце праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз Міністэрства юстыцыі Беларусі. Менавіта там мне і распавялі вышэйзгаданую гісторыю, як адну са "сваіх" спраў. Пры гэтым мая суразмоўца, якая настойвала на тым, каб яе прозвішча не называлася, дадала, што добры эксперт абавязкова павінен валодаць такімі якасцямі, як адказнасць, скрупулёзнасць, акуратнасць і... нудная пытлівасць. Ну і яшчэ трэба валодаць інтуіцыяй. І ўмець самаўдасканальвацца. І не баяцца вучобы. Некаторыя са спецыялістаў перш чым атрымаць юрыдычную адукацыю, займелі медыцынскую, а ўжо значна пазней прайшлі праз церні аспірантуры, штудзіравалі найноўшыя кніжкі па псіхалогіі, псіхафізіялогіі, нейрафізіялогіі.

Цікава, падумалася мне ў размове з даследчанай субяседніцай, а як пачуцці і асобныя словы ўздзейнічаюць на почырк? Да прыкладу, слова "каханне"? Аказваецца, стан душы і пачырк узаемазвязаныя! Можаце правесці эксперымент. Паспрабуйце доўга-доўга пісаць словы "секс, забойства, злосць, нянавісць, кроў" і вы заўважыце, як мяняецца ваш почырк, як усё ўсярэдзіне вас запаўняецца агрэсіяй. А калі пісаць "каханне", — рэакцыя адваротная. Адчуеце ціхамірнасць і спакой.

## Куды нахіляецца «р»?

«Почырк — той жа самы інструмент, што і душа, ён фіксуе ваш унутраны стан, раскрывае вашу ўнутраную сутнасць», — лічыць мая суразмоўца. Аднак прызнаецца, што і загадак у гэтай галіне яшчэ шмат, экспертам-практыкам хопіць іх разгадваць на доўгія гады. Праўда, ёсць нюансы, пра якія можна распавядаць шырокай публіцы. Да прыкладу, калі ваш радок у працэсе напісання падымаецца, дык гэта вельмі добра, сведчыць пра высокі тонус, моц і добрую энергію, якой вы зараджаны. Радок, які падае — сведчанне ўпадку сіл. Але калі вам спатрэбіцца нешта запісаць, зняначку ўстаўшы з ложка сярод ночы (што часта здараецца з пісьменнікамі), дык «падаючы» радок будзе лічыцца нормай.

Якія яшчэ нюансы вядомыя? Людзі, якія ставяць літары прама, так жа цвёрда стаяць у жыцці, яны прамалінейныя, амаль беззмацыйныя, аказваюць дапамогу толькі добра падумаўшы. Для мужчын не характэрны почырк з моцным нахілам улева, гэта лічыцца паталогіяй. А вось заўважны нахіл управа і ў мужчын, і ў жанчын сведчыць пра пачуццёвасць і эмацыйнасць. Агрэсіўны па натуры чалавек піша рэзка акрэсленымі, вуглаватымі літарамі; яго лёгка распазнаць па напісанні літары "р".



1914 г.

Не ведаю, як пісаў літару «р» адзін з герояў чарговай крымінальнай справы і ці быў ён агрэсіўны, але ягоны почырк прыдаўся, каб зразумець, што той быў за чалавек. Адкрыўшы пры гэтым вочы не толькі спецыялістам, але і тым, хто пражыў поруч з ім гады. ...Спачатку было ўсё добра: мужчына, як кажуць, стаў на ногі, ажаніўся, нарадзіліся дзеці, а потым нешта абрынулася ў адносінах з жонкай, адбыўся развод. Праз пэўны час мужчына стварыў новую сям'ю і стаў клапаціцца пра ўтульнае «гняздзечка». Супругі пачалі разам будаваць катэдж. Адзінае, што не падабалася жанчыне, дык гэта паталагічная рэўнасць з боку мужа, хаця ніякіх падстаў і не было. І раптам ні з таго ні з сяго той скончае жыццё самагубствам. Пакінуўшы ўсю маёмасць, у тым ліку і недабудаваны катэдж, у спадчыну першай жонцы і дзецям. А што ж рабіць той, другой? Яна магла застацца без сродкаў, нават нягледзячы на пазыковыя распіскі і розныя фінансавыя паперы, якія пацвярджалі што яны вялі сумесную гаспадарку і сумеснымі намаганнямі будавалі дом. Акрамя гэтых, безумоўна, важных папер, у яе на руках застаўся вельмі дзіўны ліст ад мужа. Над гэтай апошняй паперай і давялося папрацаваць спецыялістам Навукова-даследчага інстытута праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз. І працаваць, скажу я вам, было над чым: ліст быў незвычайным не толькі па стылі і змесце, але... па шрыфтах і форме (напісаны ў геаметрычных фігурах — трох- і прамакутніках, кругах і да т.п.). Засталося высветліць: у якім стане пісаўся ліст і ці быў падобны стан звычайным для таго, хто пісаў. Дзякуючы навуковым даследаванням у галіне пісьма шызафрэнікаў удалося даказаць: у нябожчыка была шызафрэнія ў стадыі абвастрэння. Але аднаго пацвярджэння было мала, і суд прызначыў псіхіятрычную экспертызу на падставе матэрыялаў справы і сведчанняў людзей, якія добра ведалі таго мужчыну. Стала вядома і пра галюцынацыі, і пра неадэкватныя паводзіны... Паралельна працавалі, праводзячы незалежнае даследаванне, і псіхіятры з інстытута Сербскага. Дыягназ пацверджаны: прыхаваны шызафрэнік скончыў жыццё самагубствам у стадыі абвастрэння хваробы. Нягледзячы на незадаволенасць той, якой прызначалася маёмасць, спадчыну атрымала другая жонка. «І гэта справядліва», — засталося парадавацца за такое вырашэнне нялёгкай справы.

«Цікава, а над якой загадкай нашы графолагі працуюць ужо доўгі-доўгі час і ўсё ніяк не могуць знайсці адказ?» — пацікавілася я. «Заўсёды правільна вызначыць, хто пісаў тэкст: мужчына ці жанчына... Можа, з-за таго, што нашы жанчыны з нараджэння жывуць па прынцыпе: "я і лошадь, я и бык, я и баба, и мужик...", — сумна прамовіла субяседніца, і пакуль я прылежна запісвала яе словы, кінула ўважлівы погляд у мой нататнік. Як вы думаеце, навошта?

**Вольга МЕШЧАРАКОВА**

*На здымках: аўтографы М.Горкага і С. Ясеніна*

**ЗАХАРАВА, 19**



Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";
e-mail: minsk@lim.by
*Адрас у Інтэрнэце — www.lim.by*

**Акутагава РУНОСКЕ:**

*"Ад таленту нас аддзяляе ці не адзін крок. Але каб зразумець, што гэта за крок, трэба спасцігнуць вышэйшую матэматыку, у якой палову ста ры складаюць дзевяноста дзевяць ры."*




**Вячаслаў КАЗАКЕВІЧ. *"Ползи, улитка!"* (Масква, Футурум БМ, 2004, вершы; рэдактар А.Бердзічэўская, 1000 ас., 80 стар.)**

Вячаслаў Казакевіч, нарадзіўшыся ў Бялынічах, з дзяцінства чуў і збольшага вучыў у школе беларускую мову, аднак, пісаць вершы пачаў па-руску. Знаёмая сітуацыя. Да таго ж з замаладу апынуўся ў Маскве. Там і выдаў свой першы зборнік "Праздник в провинции" (прэмія імя А.Горкага за лепшую першую кнігу), а пасля, у 1987, яшчэ адзін – "Кто назовет меня братом?" Дзіўна, але менавіта на старонках апошняга зборніка я і адшукаў верш, на які пятнаццаць гадоў таму не звярнуў асаблівай увагі. Называўся ён "Японскі бог". Лёгкі іранічны верш пра колішнюю службу ў войску. Там ёсць такія строфы:

*Был наш взводный очень строг,*
*чуть меня встречал:*
*— Ты, куда, японский бог? —*
*грозно он кричал.*
*...........................*
*Научился я ходить*
*в громовом строю.*
*Научился я любить*
*родину свою.*
*...............*
*Шелестит берез сем"я,*
*и в пыли броня...*
*О Япония моя,*
*милая моя!*

Ці думаў тады малады паэт, што ўжо праз пяць гадоў пасля выхаду кніжкі насамрэч апынецца з сям"ёй у той самай Японіі?! І напіша там, адваротныя вышэй працытаваным, радкі:

*А по ширме летает дракон,*
*и тропинкою в зябком тумане*
*на горы поднимаются склон*
*самураи, монахи, крестьяне.*
*Между ними шагаю и я,*
*удивляясь их зыбкому строю,*
*и попутчики на меня*
*с подозреньем косятся порою.*
*...........................*
*Вот утес и кривая сосна,*
*дальше моря неровная строчка,*
*а за морем другая страна...*
*Но туда я иду в одиночку.*

Аднак перад тым паэту *пашчасціла* паехаць туды найперш дзеля таго, каб падлячыць ад радыяцыйнай чарнобыльскай хваробы малалетняга сына, які гадаваўся ў страшны 1986 год якраз у свайго бялыніцкага дзеда... Так сталася, што Вячаслаў Казакевіч застаўся там да гэтай пары. Ужо дванаццаць гадоў. Абжыўся, можна нават сказаць, прыжыўся. Выкладае рускую філалогію на універсітэце горада Таяма. Нядаўна ў перакладзе вядомага паэта Аота Сэіці выйшла ў Японіі кніжка яго эсэ "Ухвала заходу сонца". А ў Маскве — новы зборнік вершаў "Ползи, улитка!", поўны настальгіі і філасофскага пераасэнсавання ўласнага жыцця — таго яго моманту, калі ў чалавека прападае ўсведамленне пэўнасці ХТО ён ёсць насамрэч:

*Может быть, монах буддийский,*
*может, самурай без службы.*
*Может быть, поэт российский,*
*тоже никому не нужный.*

Вядома, услед за гэтым унутрана выспявае душэўны зварот да сваіх каранёў, крэўнасці і айчыннай прыналежнасці. І хоць вобраз Расіі ўсё яшчэ *зыбіцца* ў памяці паэта, але ўжо далёка не ў лепшых прадчуваннях:

*Если бы да кабы я в Москве остался,*
*то подсчетом ворон уже не занимался,*
*а лежал бы давно под крестом и кочкой,*
*и возила б жена для меня цветочки.*

У той самы час як выявы беларускага нацыянальнага жыцця ў яго падсвядомасці данельга *жывыя* і прыцягальна-шчымлівыя нават у сваіх самых скептычных згадках:

*Под пальмой бородатой подумал об утратах*
*и лишь хромого брата нашел в своих мечтах.*
*Прислал он за границу письмо на полстраницы:*
*"А я живу в деревне — умру на хомутах!"*

*Конюшня между взгорий стоит за синим морем.*
*Новозным сапожищем полсвета заслоня,*
*мой брат лежит на сене, коня махрою морит*
*и с торжеством печальным взирает на меня.*

Але ці не адразу пасля прачытання братавага ліста выспелі ў душы В.Казакевіча наступныя самасудныя радкі, а не вышэй прыведзеныя, што пісаліся, пэўна, пасля ўжо, як своеасаблівае апраўданне:

*Широко уставясь на горы*
*и на рисовые поля,*
*все равно я вижу над бором*
*белорусского журавля.*
*Он в камыш идет на посадку,*
*успевая пробормотать:*
*— Я, как видишь, туточки, братка,*
*а тебя давно не видать!*

Што праўда, не ўвесь зборнік усыпаны іроніяй, сарказмам ды слязьмі самоты. В.Казакевіч — паэт сур"ёзны. З тонкім філасафічным стылем мыслення. І час пражыты ў краіне ўзыходзячага сонца і дзэн-будызма адкладся на "даўгавечным папірусе" яго душы прыхаваны за двума слаямі традыцыйнай славянщчыны... Хіба на гэтым вершы з чатырох радкоў ужо не ляжыць пячатка астраўной чалавечай забытасці і адзіноты — японскага вобраза жыцця?

*Новое под осень развлеченье!*
*Целый день у дома моего*
*зычные качаются качели,*
*на которых нету никого.*

І значыць, — пара вяртацца, пакуль яшчэ ёсць каму чакаць і ёсць для каго пісаць. Гэта толькі здаецца, што жыць трэба там, дзе можна жыць. Бо насамрэч, жыць трэба там, дзе хочаш памерці... **Дома**. Ці не адсюль вымкнулі і гэтыя развітальныя радкі са зборніка В.Казакевіча "Ползи, улитка!":

*Как угодно можешь тут жить.*
*Не влезай только в жизни суть.*
*Уходя, не забудь потушить*
*солнце, месяц и Млечный путь.*

Зрэшты, усё адно яны будуць ісці ўслед за табой на захад і дагоняць якраз на Айчыне, асвяціўшы ўсё самае дарагое і неабходнае, што да пары да часу хавалася ад тваіх вачэй і скрадалася цемрай...

Барыс Пятровіч

ШЧАСЬЦЕ БЫЦЬ...

**Барыс ПЯТРОВІЧ. *"Шчасце быць..."* (трыпціх, аповесці, апавяданні, мроі; Менск, 2004, рэдактар А.Пашкевіч, 500 ас., 576 стар.)**

Калі абрусελы В.Казакевіч дапяў-такі да Японіі, асеў там і замаркоціўся, то зацыялізаваны Б.Пятровіч толькі ўспамінае-мроіць пра далёка-усходні вектар беларускай зацікаўленасці дзеля свайго чалавечага самапазнання і самаўдасканалення... Так прынамсі ў яго новай аповесці "Пуціна". У гэтым **абяскроленым** *расказе ад першай асобы*, дзе, не раўнуючы як у В.Мандэльштама (*"и море... с тяжким грохотом подходит к изголовью"*), — Японія набліжаецца да Беларусі. Зрэшты, па словах аўтара: *"беларусы знаходзяцца пасярод:* сын адвозіць бацьку ў лес паміраць;... і ў Японіі *сын адносіць маці ў горы паміраць...* менавіта тут нашае падабенства і наша адрозненне: падабенства ў сэрдзіннасці (Дух сярэдзіны жыве не толькі ў Японіі, лунае ён і над Беларуссю), адрозненне толькі ў накірунку вектару (..."ваенны" атам першым упаў на Хірасіму і Нагасакі: на галовы японцаў, а "мірны" — на галовы беларусаў... чаму менавіта Беларусь і Японія — хіба бывае на гэтым свеце нешта выпадковае...)

Агулам, аўтар не з тых, хто працягвае, іранізуючы радкамі В.Казакевіча, забаўляцца праміну-лым:

*Достану улицу с ребятами,*
*сарай дощатый с поросятами,*
*цветы, что вышивала мать...*
*В стране, так далеко лежащей*
*от прошлого, давайте в счастье*
*и в Белоруссию играть!*

Таму, чытаючы яго прозу — апошнім часам усё больш жывую, адчувальную і крываточную — адаптуеш свой досвед адносна прыўнесенага ім інтэлекту да рэаліі сучаснага чалавечага жыцця (беларускага найперш)...

Барыс Пятровіч — з немалалікага літаратурнага роду Саханкаў. Найбольш адораны з іх. Падкрэслена таленавіты. Адрозны і таму заўважны. (У сямі няняк — дзіця *ў бібліятэцы*. У нашым выпадку — адразу ў дзядзькавай, а пасля ў *Борхесавай*.)

Але гэта ўжо з гледзішча сённяшняга часу, а яшчэ сем год таму, выстройваючы крывічанскую "постаць" Б.Пятровіча, культуролаг В.Акудовіч дайшоў у сваіх філасофскіх развагах да сантэхнікі і нават асцярожна паспрабаваў *укруціць* нашага літаратара ў вадаправодную трубу замест крана... Вядома, калі ўвесь час круціць прадмет свайго зацікаўлення, то абавязкова *раскруціш*...

Пятровічу гэта без патрэбы. Пачаўшы ад складанага і пажаднага, ён прыйшоў да простага і неабходнага. Ад Далёкага Усходу — да Беларусі. Ад мрояў — да явы. Ад *"спецкара"* — да галоўнага рэдактара. Ён падабрэў, разняволіўся, разгаварыўся... Перастаў ставіць кропкі там, дзе ўсё яшчэ працягваецца жыццё...

Літаратура, якая была хлебам, нарэшце стала яму духам...

*"Убачылася:*
*ідзе Гедымін па полі (...)*
*а за спіною ягонай*
*на ўзвышшы — муры гораду*
*над галоўнаю вежаю*
*сцяг: чырвона-залёна-жоўты*
*і нехта крычыць Гедыміну*
*ўслед: "Каго любіш?"*
*"Жоўты дом. Зялёны сцяг над ім. Чырвоны ліхтар над дзвярыма. Жоўты-зялёны-чырвоны — колеры светлафора — колеры небяспекі. Альбо не-бяспекі. Гледзячы як імі карыстацца, як імі кіраваць."*
*— Трохі ніжэй...*
*— А цяпер?*
*— Акурат.*
*— Не адчуваю.*
*— Прыгніся.*
*— Так?*
*— Яшчэ.*
*— Так?*
*— Во-во-во...*
*"На рэферэндум Піліп не хадзіў."*

У адрозненне ад Барыса Пятровіча.

І хоць гэта не адбілася на выніках рэферэндума, усё ж, перафразуючы аўтара, скажам: *хто быў — той шчаслівы...* Па-свойму, вядома.







**Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Анатоль КАЗЛОЎ**

**Рэдакцыйная рада:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Наталля ДЗЯНІСАВА,**
**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**Вольга КУРТАНІЧ,**
**Алесь ГАЎРОН — в. а. намесніка галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73**

**АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-79-65
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53
паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы — 284-66-73
музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73**

***Электронны адрас:*
e-mail: minsk@lim.by**

***Адрас у Інтэрнеце —
www.lim.by***

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый. Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 2468
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.11.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1705

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12